*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

◈ № 16(176) ◈ 20 красавіка 1994 г. ◈ Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***ПАДПІСАНАЕ 12 КРАСАВІКА У МАСКВЕ ПАГАДНЕННЕ АБ АБ'ЯДНАННІ ГРАШОВЫХ СІСТЭМ БЕЛАРУСІ І РАСІІ ВЫКЛІКАЛА НЕАДНАЗНАЧНУЮ РЭАКЦЫЮ У ПАЛІТЫЧНЫХ КОЛАХ КРАІНЫ.*** *Як мінімум два артыкулы толькі што ўступіўшай у дзеянне новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь маюць патрэбу ў кардынальнай праўцы дзеля таго, каб дагавор аб аб'яднанні набыў законную сілу. У гэтых артыкулах замацавана самастойнае функцыяніраванне фінансава-крэдытнай сістэмы краіны і выключнае права Нацыянальнага банка Беларусі на грашовую эмісію. Парламенцкая большасць гатова пайсці на пэўныя абмежаванні суверэнітэту дзеля сваіх выгад напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Нечарговая сесія Вярхоўнага Савета адбудзецца 27 красавіка, але Прэзідыум не вынес на яе разгляд пытання аб зменах у Канстытуцыі. Сесія прысвечана выбарам Канстытуцыйнага суда — органа, які будзе стаяць на варце Канстытуцыі, а зусім не спрыяць яе перагляду.*

**СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ ПРАВЁЎ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЮ,** на якой прагучалі і такія словы: «Я зрабіў свой выбар. Гэта выбар майго жыцця. У саюзе з Расіяй наша выратаванне». Ён таксама адзначыў, што мы не адмовімся ад свайго суверэнітэту.

***ГРУПА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА, ЯКІЯ ВЫСТУПАЮЦЬ АД ІМЯ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ,*** *звярнулася ў Прэзідыум ВС з патрабаваннем даручыць Генеральнаму пракурору неадкладна правесці расследаванне і пры неабходнасці ўзбудзіць крымінальную справу ў адносінах да ўдзельнікаў падрыхтоўкі і падпісання дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Шэраг дэпутатаў ад апазіцыі патрабавалі таксама ўключыць у парадак маючай адбыцца нечарговай сесіі пытанне аб адстаўцы прэм'ера і членаў урада «за антыканстытуцыйную дзейнасць».*

**ПРА АБ'ЯДНАННЕ ГРАШОВЫХ СІСТЭМ РАСІІ І БЕЛАРУСІ СТАРШЫНЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ СКАЗАЎ: «Расійскі бок, развітваючыся з намі, запэўніў, што яшчэ раз абдумае тыя пярэчанні, якія я выказаў, — аб тым, што па нашай Канстытуцыі адзіным крэдытна-грашовым цэнтрам павінен быць Нацыянальны банк Беларусі. Непрымальна і тое, што яны прапанавалі перадаць ім усе пасівы і актывы — гэта фактычна азначала б перадачу нашай уласнасці чужой дзяржаве. Я на такіх умовах дагавор не падпісаў. Аптымальным варыянтам магла б быць згода Масквы на тое, што Беларусь захавала права на эмісію ва ўзгодненых межах».**

***МЯЧЭСЛАЎ ГРЫБ:*** *«Не толькі я, думаю, а і большасць нашых дэпутатаў будуць супраць таго, каб змяняць Канстытуцыю».*

***НАМЕСНІК СТАРШЫНІ ПАРЛАМЕНЦКАЙ КАМІСІІ*** *па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі Віктар Аламніеў лічыць, што дамова з Расіяй пра аб'яднанне грашовых сістэм — гэта не што іншае, як здача Беларусі.*

*РЭХА*

## А беларусаў усё ратуюць ды страшаць

Даведаўшыся пра дамаганні дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь генерала Сарокіна стварыць яшчэ адну парламенцкую камісію па расследаванні фактаў прапаганды ў сродках масавай інфармацыі нацыяналізму, вельмі здзівіўся. Беларусь давялі да таго, што амаль ні ў адной вышэйшай навучальнай установе нельга атрымаць адукацыю на роднай мове, у сярэдніх і старэйшых класах усіх гарадскіх школ Беларусі выкладанне вядзецца па-руску, амаль ва ўсіх дзяржаўных установах Беларусі гучыць не дзяржаўная, а чужая мова, і ўсё яшчэ звышінтэрнацыяналістам мала, аказваецца.

Скажыце, калі ласка, спадар Сарокін, дзе ж нам, беларусам, якія жывуць на роднай зямлі, шукаць беларускіх ВНУ, школ, установ?

Вы, рускія, маеце ўсё гэта і ў Беларусі, і ў Расіі. А куды ж нас збіраецеся падзець? Няўжо загнаць у рэзервацыі? Я не забыўся, як у канцы шасцідзесятых і пачатку сямідзесятых гадоў мне ў КДБ казалі: «Белорусский язык должен исчезнуть, а вы нам мешаете». Калі я катэгарычна адмовіўся дапамагаць у знішчэнні роднай мовы, на мяне пасыпаліся бясконцыя праверкі, абразы, здзекі, цкаванні.

У чым Вы ўбачылі беларускі нацыяналізм? У тым, што высвятляецца наша этнічная адметнасць? Чаму ў Вас выклікае шаленства тое, што лічыцца нармальным ва ўсім цывілізаваным свеце? Чаму Вы адразу пачынаеце абражаць патрыётаў, называючы нас нацыяналістамі, патрабаваць суда над намі, у тым ліку над нашым гонарам і сумленнем — Уладзімірам Арловым? Цешыцца б, што з'явіўся ў Беларусі такі самаахвярны патрыёт, таленавіты пісьменнік. Не, бо не хоча скакаць пад дуду камуністаў-эсэсэраўцаў.

Яшчэ раз перачытаў усе «Пралескі» за 1993 год і нічога дрэннага не знайшоў. Тут выхавацелям, бацькам па-мастацку, таленавіта Уладзімір Арлоў распавядае пра пачатак беларускай дзяржаўнасці, пра наш герб і сцяг, якія так Вам ненавісны, пра Вялікае Княства Літоўскае, пра бітвы пад Грунвальдам, на Крапіўне, пра наш гонар Францішка Скарыну, пра Міколу Гусоўскага. Дзе ж тут нацыяналізм? Гэта годны патрыятызм.

Памятаю, у канцы васьмідзесятых гадоў сакратар Мастоўскага райкама Абрамовіч Нэла Мікалаеўна і група супрацоўнікаў Гарадзенскага абкама КПБ пачалі мяне лаяць за тое, што нашу значок «Пагоня». Адзін з іх мне сказаў: «Такой герб носили при немцах белорусские полицаи».

Я здзівіўся і сказаў, што гэта вельмі дзіўна.

— Што дзіўна? — запытаўся партыйны функцыянер.

— Тое, што немцы дазвалялі насіць «Пагоню», — адказаў я.

— Чаму? — не супакойваўся партыец.

— Бо ў 1410 годзе пад Грунвальдам з сарака беларуска-літоўскіх харугваў трыццаць мелі на сваіх сцягах «Пагоню». Атрымліваецца, што вы горш за фашыстаў. Нават яны не забаранялі «Пагоню», то чаму вы яе забараняеце? — спытаў я.

Адказу не было. Яго і не магло быць.

Калі забараняць творы Уладзіміра Арлова і нават судзіць іх, то трэба судзіць і ўсю патрыятычную творчасць Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, усіх беларусаў, увесь беларускі народ.

«Дарагія» нашы ахоўнікі! Калі вам не падабаецца беларускі народ, то пакіньце вы нас. Можа, мы самі неяк уратуемся на сваёй Айчыне.

А. БЕЛАКОЗ.

## СВЯТКАВАННЕ 76-Х УГОДКАЎ АКТА 25 САКАВІКА Ў СІДНЕІ, АЎСТРАЛІЯ

**УРАЧЫСТАЕ святкаванне 76-х угодкаў гістарычнага абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі актам 25 сакавіка 1918 г. пачалося сонечнай раніцай у нядзелю, 27 сакавіка, адмысловай Божай службай у праваслаўнай царкве амерыканскай юрысдыкцыі ў сіднэнскім прыгарадзе — Гомбуш. У царкве былі беларусы, што прыехалі ўшанаваць угодкі гэтай сапраўды ВЯЛІКАЙ ПАДЗЕІ ў жыцці беларускага народа. Настаяцель царквы, беларус з Беласточчыны, айцец Ігар падрыхтаваў асобную малітву за незалежнасць Рэспублікі Беларусь і за беларускі народ. На заканчэнне царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. Падгайскага вельмі прыгожа выканаў напісаную Наталляй Арсенневай малітву-песню «Магутны Божа»...**

**Падчас божай службы за Беларусь і беларускі народ у царкве красаваўся бел-чырвона-белы сцяг, які трымалі Міхась Ціхан і Алесь Алехнік...**

**Афіцыйная Акадэмія адбылася ў Беларускім доме ў прыгарадзе Фэйрфілд і была афіцыйна адкрыта Міхасём Лужынскім, пасля чаго быў выкананы Беларускі нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»...**

**З вельмі цікавым дакладам-расказам выступіла Галя Базаленка, якая расказала прысутным пра тыя гістарычныя падзеі, якія адбываліся на Беларусі, і асабліва ў Менску, сведкай якіх яна была, і якія давялі да паўторнага абвяшчэння суверэнітэту Беларусі 27 ліпеня 1990 г.**

**Міхась Лужынскі таксама праінфармаваў прысутных аб тых сакавіцкіх прывітаннях, якія прыслалі беларускія арганізацыі з Беларусі і іншых краін свету. Янка Гавенчык прачытаў дасланае архіпастырскае пасланне першага іерарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы мітрапаліта Мікалая.**

**Па заканчэнні афіцыйнай часткі пачаўся супольны абед, прыгатаваны жаночым камітэтам у складзе Лізы Бакуновіч, Валі Спасавай, Ванды Марчанкі і Марты Юхневіч, якія ў сяброўскай атмасферы працягнуўся да позняга вечара.**

Алесь АЛЕХНІК.

*Беларускія задачкі часоў незалежнасці*

## Мы ўжо ў «рублёвай зоне» ці на чарговым этапе?

**14 красавіка г. г. расійская газета «Известия» выйшла пад вялікай «шапкай» на першай паласе: «Белоруссия обменяла часть своего суверенитета на российские рубли».**

**Застаюцца ўсё ж пытанні: «Белоруссия» абмяняла, а як Рэспубліка Беларусь?**

**«Известия» ж напамінаюць, што, напрыклад, у Францыі і Германіі зусім розныя грошы, аднак гэта не перашкаджае шматмільярднаму тавараабароту паміж імі. І наадварот, пасля распаду СССР на тэрыторыі новых незалежных дзяржаў доўгі час абарачаліся менавіта рублі, а эканамічныя сувязі разбураліся на вачах.**

**Напамінаецца таксама пра тое, што Нацыянальнаму банку Беларусі прапануецца стаць «нечым накшталт нацбанка Татарыі». А беларусам выходзіць — упадобіцца расійскім татарам? А хто ў нас будзе тады Шайміевым?**

**Старшыня Нацбанка Беларусі Станіслаў Багданкевіч, якога лічаць прафесіяналам вышэйшага класа, свой подпіс пад такімі дамовамі не паставіў, што «ўласнасць Рэспублікі Беларусь у выпадку прыняцця дагавора перадаецца на баланс іншай дзяржавы». Словам, маёмасць беларусаў, здаецца, канчаткова пераходзіць расійскім капіталістам. Дзіўна: чаму камуністы гэтаму не толькі радуюцца, а ўсяляк спрыяюць?**

Ул. АС.

## УВАГА!

Рэдакцыя газеты «Наша слова» пераехала ў новае памяшканне па адрасу: вуліца Чычэрына, 1 (каля тэатра оперы і балета). Праезд аўтобусамі № 24, 38, 72, 77, 91; тралейбусамі № 12, 25, 29, 27, 40, 43. Рэдакцыя газеты знаходзіцца на трэцім паверсе, пакоі № 316, 317, 318.

Адрас рэдакцыі:
220029, г. Менск,
вул. Чычэрына, 1.

*АЛЕ!* *АЛЕ!*

# ІНТЭГРАЦЫЯ—КАНФЕДЭРАЦЫЯ—ФЕДЭРАЦЫЯ

Інтэнсіўная-чаўночная дыпламатыя нашых урадавых дэлегацый у белакаменную Маскву мне чамусьці нагадала радкі з паэмы М. Танка «Кастусь Каліноўскі»: **«ПАНЫ СЯГОННЯ ВОДЗЯЦЦА З ЦАРОМ ЗА БАРАДУ, ДАСЦЬ КОСТКУ ІМ — ПАГОДЗЯЦЦА: СЯЛЯН ЗАПРАДАДУЦЬ».**

Візіты спалучаліся з апрацоўкай грамадскай думкі. Настойліва сцвярджалася, што эканамічная інтэграцыя і калектыўная бяспека — адзінае для Беларусі выйсце з эканамічнага тупіка і надзейная панацэя ад усіх бед. У сваіх «доказах» карысці такой інтэграцыі нашы дамарослыя палітыкі спасылаюцца на інтэграцыю Заходняй Еўропы ў рамках ЕЭС: маўляў, глядзіце, чаго дасягнулі еўрапейскія дзяржавы! Але ж яны забываюць, што ў еўрапейскую эканамічную супольнасць аб'ядналіся суверэнныя дзяржавы з трывалымі рынкавымі падмуркамі і развітымі эканамічнымі структурамі. Прыхільнікам розных «саюзаў» варта таксама напомніць важную рысу суіснавання ў рамках ЕЭС: там зусім не ставіцца пытанне з боку больш магутных дзяржаў аб наданні дзяржаўнасці, скажам, англійскай, французскай мовам у краінах малодшых партнёраў, якім ані не пагражае этнічная асіміляцыя і страта суверэнітэту.

У навукова-філасофскай літаратуры паняцце «інтэграцыя» трактуецца як працэс узаемнага прыстасавання і аб'яднання нацыянальных гаспадарак некалькіх краін з аднатыпным дзяржаўным ладам. У ЕЭС аб'ядналіся дзяржавы з грунтоўнымі і дэмакратычнымі асновамі прававой культуры, чаго не скажаш пра постсавецкія рэспублікі. Што да эканамічнага стану дзяржаў СНД, то ён надзвычай стракаты. Аб якой эканоміцы можа ісці гаворка ў тых, напрыклад, дзяржавах, дзе палымнеюць пажары войнаў і міжусобіц, дзе ў выніку нішчацца рэшткі нацыянальных эканомік? Стракатасць характарызуе і грамадскі лад у краінах СНД. У некаторых рэспубліках амаль не крануты таталітарызм, у некаторых ва ўладзе знаходзяцца нацыянал-камуністы, а да сапраўдных рынкавых адносін пакуль не зроблена ніводнага кроку. Адносна карысці «рублёвай зоны» для Беларусі пакуль цяжка сказаць нешта пэўнае. Час высветліць і ўсё паставіць па месцах.

Але ўжо зараз насцярожвае і выклікае трывожныя думкі заява «Саюза трох у Горках-9». У адным з абзацаў чытаем: «Урады зыходзяць з таго, што эканамічная інтэграцыя не можа ажыццяўляцца ізалявана, без больш шырокага ўсебаковага ўзаемадзеяння ў палітычнай, абарончай і заканадаўчай галінах». Паспрабуем расшыфраваць гэтую тыраду. У палітычным плане «ўзаемадзеянне» азначала б для нашай дзяржавы страту самастойнасці на міжнароднай арэне. Ей было б наканавана плыць толькі ў фарватары імперскай і вялікадзяржаўнай расійскай палітыкі. Гэта не спрыяла б аўтарытэту Беларусі, бо з дзяржавамі-сатэлітамі пазбягаюць размоў на міжнародным узроўні. А шырокія ўзаемадзеянні ў абароннай галіне азначалі б стварэнне новага ваеннага блока тыпу «Варшаўскага дагавору». Далейшае лёгка прадбачыць — гонка ўзбраенняў, непазбежнае ператварэнне нашай тэрыторыі ў ваенны плацдарм, самаліквідацыя пазітыўнага нейтралітэту.

Вядома, такі крок улядных структур Беларусі еўрапейская і сусветная супольнасць расцаніла б як крывадушша ў адносінах да сваіх уласных ранейшых абяцанняў. Расійскія ж войскі так і засталіся б на Беларусі «ахоўваць стратэгічныя інтарэсы», дапамагаючы канчатковай русіфікацыі беларусаў. Увогуле, ніхто сёння не можа даць гарантыю, што заўтра ў расійскіх уладароў не прачнецца ваяўнічы дух «собирания земель», тым больш, што такія заклікі, а то і пагрозы, чуваць ужо зараз. Як сведчыць гісторыя, расійскі імперскі дух нязменны, ён непадуладны часу. Вытокі яго ўзнікнення і выспявання бліскуча і аб'ектыўна раскрыў Зянон Пазьняк у сваім артыкуле «О русском империализме и его опасности», надрукаваным у «Народнай газеце» 15—17 студзеня бягучага года. Дазволю сабе дадаць некаторыя гістарычныя факты, аб якіх не сказаў З. Пазьняк.

У свой час знакаміты дыпламат першай Французскай рэспублікі Шарль Талейран зрабіў высноў: «Трэба сцерагчыся рускіх: яны будуць імкнуцца заваяваць свет». Прадбачанні французскага палітыка аказаліся не беспадстаўнымі. Расія паказала свету сябе: раздзелы Польшчы, анексія Прыбалтыкі, Фінляндыі, іншыя ваенныя авантуры. Вялікадзяржаўна-імперскую спадчыну ад царызму перанялі бальшавікі. Успомнім, напрыклад, спробу ажыццяўлення злавеснага плана вар'яцкай тэорыі «перманентнай рэвалюцыі» Троцкага, калі бальшавікі накіравалі на Захад свае орды. Толькі польскі «цуд над Віслай» выратаваў тады Заходнюю Еўропу ад бальшавіцкай навалы. Але крамлёўскія ўлады не адмовіліся ад сваіх ранейшых задум, хоць лозунг «перманентнай рэвалюцыі» быў заменены на «інтэрнацыяналізм».

Не знік дух вялікадзяржаўнасці і ў час панавання эпігонаў сталіншчыны — генсекаў і крамлёўскай эліты аж да распаду СССР. Згадаем прызнанне апошняга генсека з крамлёўскай трыбуны: «Мы сабіралі гэтую краіну 1000 гадоў!» Варта спытаць: якую краіну? — «Страну рабов, страну господ»? «Тюрьму народов»? «Чырвоную імперыю зла»?

Дух вялікадзяржаўных амбіцый зараз выпастоўваецца і ў расійскіх «дэмакратаў», хоць ён пакуль абмежаваны, нібы той джын у бутэльцы. Не заўважаць гэта могуць толькі палітыкі-дальтонікі.

Аднак, было б няправільна сцвярджаць, што расійская разумовая эліта складаецца толькі з адных вялікадзяржаўнікаў. У Расіі ёсць і сумленныя вучоныя, дзеячы культуры, якія добра разумеюць, што ранейшая імперская палітыка зжыла сябе, што зараз патрэбны новыя адносіны да суверэнных дзяржаў, якія ўзніклі пасля крушэння «чырвонай імперыі». У гэтым, у прыватнасці, пераконваешся з артыкула доктара філасофскіх навук, прафесара Р. Самсонава «Уцёкі з імперыі», які быў надрукаваны ў «Известиях» 7 студзеня мінулага года. Аўтар недвухсэнсоўна гаворыць, што «Новая Расія зможа здабыць давер іншых народаў, калі адмовіцца ад практыкі цароў і КПСС... Непрыгожа разумным людзям забывацца, што, акрамя матэрыяльнага дабрабыту і інстынкту самазахавання, у любога народа ёсць нацыянальны гонар, пачуццё ўласнай годнасці і свой уласны патрыятызм: для іх свая рэспубліка не «малая радзіма», а Радзіме... трэба пазбаўляцца ад комплексу «старэйшага» і «малодшага» братоў. Аднак, як сведчаць заявы некаторых «дэмакратаў» пры ўладзе, яны пакуль што не чуюць голасу розуму».

Не трэба быць футуролагам, каб прадбачыць, да чаго прывяло б прадугледжанае заявай узаемадзеянне ў заканадаўчай галіне. Законы нашай Рэспублікі сталі б непазбежна копіямі з адпаведных законаў Расійскай Федэрацыі, у дадатак — абавязковая дзяржаўнасць рускай мовы, поўнае выцясненне матчынай мовы, нарэшце — скачок праз канфедэрацыю ў федэрацыю і канчатковае «зліццё нацый».

Праўда, было б памылковым зусім адмаўляцца ад кантактаў з Расіяй у галінах эканомікі і культуры, на аснове двухбаковых пагадненняў. Усё гэта павінна рабіцца на парытэтных прынцыпах, без дыктату і розных «эканамічных санкцый». Суседскія суадносіны павінны грунтавацца на глыбокай і мудрай формуле мірнага суіснавання народаў і культур.

Васіль СОКАЛ.

*РЭХА*

## Вайскоўцы імкнуцца далучыцца да скарбаў айчыннай культуры

З'яўляюся чытачом «Нашага слова» не першы ўжо год. З цікавасцю чытаю роздумы аб беларускай мове ў нашым грамадстве. Вайскоўцы — гэта таксама тая катэгорыя грамадзян, хто імкнецца дакладна навучыцца валодаць сваёй роднай мовай, далучыцца да скарбаў айчыннай культуры.

Але нялёгкая гэта справа. Возьмем, напрыклад, нашу вайсковую адзінку. У нас ёсць план баявой падрыхтоўкі, дзе беларускай мове адведзены часы заняткаў па пэўных катэгорыях ваеннаслужачых. Маюцца і праблемы. Так, праграмай не прадугледжаны розныя ўзроўні валодання мовай навучэнцамі. Сустракаецца нават такое, што хтосьці наогул не ведае сваёй роднай мовы. Пры фарміраванні навучальных груп мы вывучалі згаданае пытанне. Пасля прапанавалі камплектаваць навучальныя групы з улікам ступені валодання беларускай мовай слухачамі. Акрамя планавых заняткаў, у нашай часці працуе гурток сяброў гісторыі Беларусі.

Працэс грунтоўнага авалодання беларускай мовай складаны. Нічога тут дзіўнага: большасць нашых афіцэраў вярнуліся з розных кропак былога СССР. Ды і час раней быў такі, што на тых, хто размаўляў па-беларуску, ледзь не пальцамі тыркалі. У правядзенні заняткаў нам часта дапамагаюць сябры мясцовай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Вялікі дзякуй ім за гэтую патрэбную, нам неабходную працу.

Як ні дзіўна, але пры вывучэнні роднай мовы найбольшыя цяжкасці сустракаюцца ў вайскоўцаў тэрміновай службы. Здавалася б, хлопцы тутэйшыя, якім і карты ў рукі. Ды, на жаль, гэта не так. Вельмі насцярожвае і тое, што юнакі, якія скончылі ВНУ, тэхнікумы і ПТВ, у большасці выпадкаў могуць размаўляць толькі на сваіх мясцовых беларускіх дыялектах, літаратурнай мовы яны не ведаюць. Дрэнна яшчэ і тое, што мала падручнікаў і дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, па роднай мове. Ад імя сваіх сяброў па службе дзякую рэдакцыйнай калегіі «Нашага слова» за рубрыкі «Вучымся», «Гісторыя Айчыны — вайскоўцам», «Гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах».

Ёсць ужо плён нашай працы: салдаты, крочачы на заняткі альбо на абед, спяваюць страявыя песні толькі на роднай мове. Адным словам, не варта ўсім забываць, што мы — таксама беларусы.

Падпіска ў часці на «Наша слова» завершана. Жадаю рэдакцыі поспехаў!

А. Н. САЧАК,
намеснік камандзіра часці па баявой і маральна-псіхалагічнай падрыхтоўцы, маёр.

*Беларускі час у фотааб'ектыве*

## А ў Менску ёсць Савецкі Саюз...




Даўно ўжо няма на картах свету Савецкага Саюза. Рэспубліка Беларусь — незалежная краіна са сваёй нацыянальнай сімволікай і дзяржаўнай мовай. Тры гады як дзейнічае Закон аб мовах, але хоць гэта і закон, толькі не ўсе яго выконваюць, і ніхто нікога за гэта не карае, тым больш цяпер, калі адбываецца аб'яднанне грашовых сістэм Беларусі і Расіі.

Няма на картах Савецкага Саюза, а ў Менску, ідучы па праспекце Скарыны, так і натыкаешся на абломкі, што засталіся ад СССР...

Н. К.

**ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ПРЫНЯЎ ЗАКОН АБ КАНСТЫТУЦЫЙНЫМ СУДЗЕ.** Як адзначыў на брыфінгу старшыня Камісіі ВС па заканадаўству Дзмітрый Булахаў, Канстытуцыйны суд будзе выконваць ролю буфера паміж выканаўчай і заканадаўчай галінамі ўлады. Мяркуецца, што суд зможа прыступіць да работы не раней як 1 ліпеня. Выбіраць 11 суддзяў будзе Вярхоўны Савет. Гэта адбудзецца пасля 27 траўня, калі парламент збярэцца на новую сесію. Хочацца верыць, што Канстытуцыйны суд Беларусі пойдзе не па такім шляху, як нядаўна ішоў Канстытуцыйны суд Расіі.

***БЕЛАРУСЬ НАВЕДАЛА ПАРЛАМЕНЦКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ ГЕРМАНІІ** на чале са статс-сакратаром бундэстага панам Вільцам. Мэта гасцей — убачыць, на якія справы ідуць грошы, што выдзелены ўрадам ФРГ на жыллёвую праграму для ваеннаслужачых Заходняй групы войск, якія вяртаюцца дамоў.*

## «Ганарымся, што мы — беларусы»

*Прыйшлося мне аднойчы быць на вяселлі ў мястэчку Лунны. Сярод вясельнікаў я заўважыў хлопца і дзяўчыну, якія вельмі прыгожа спявалі беларускія песні і размаўлялі па-беларуску. Я падабраў зручны момант і пахваліў іх. «Сапраўдныя ў вас бацькі-беларусы,— кажу,— выгадавалі такіх сумленных дзяцей, што не цураюцца нічога беларускага». На гэта хлопец і дзяўчына адказалі: «Хоць мы і беларусы, але нашы бацькі — не беларусы. Яны рускай і польскай нацыянальнасцей. Калі мы сталі падрастаць, у бацькоў узнікла спрэчка — на якую нацыянальнасць, на каго з бацькоў запісаць нас. І да ладу не дайшлі. Тады мы самі вырашылі гэтую спрэчку — выбралі нацыянальнасць беларускую, па краіне, дзе нарадзіліся і жывём. І ганарымся, што мы — беларусы». Вось так.*

*Ці чуеце вы, нігілісты і янычары, ці не ўзрушацца вашы сэрцы? Ці не пройдзе ў вас алергія да беларушчыны?*

*Янка НАСУТА.*

*г. Гродна.*

*РЭХА*

# Дык адкуль з'явіліся «колеры» роднай мовы?

*«Якога колеру родная мова?» — пад такой назвай была змешчана ў «Добрым вечары» (22.02.94 г.) нататка Таісы Хартановіч. Журналістка аналізуе вынікі ўвогуле цікавага па тэме псіхалагічнага даследавання: эфектыўнасць выкладання беларускай мовы ў пачатковых класах. Даследаванне праводзілася Рэспубліканскім цэнтрам псіхалагічнага кансультавання ў 198-й школе-гімназіі г. Менска па спецыяльна распрацаванай методыцы. Вывучаліся,— піша аўтар,— адносіны дзяцей не да выкладання беларускай мовы, а да яе самой. Рабілася гэта нібыта пры дапамозе псіхалагічных тэстаў, у якіх адным з пытанняў значылася: «Якога колеру родная мова?» Вучні 3—4-х класаў, дзе выкладанне ад пачатку вядзецца па-беларуску,— напісала журналістка,— «расквецілі» родную мову чорным, шэрым, карычневым, зрэдку зялёным колерам.*

Безумоўна, такая «колернасць» не можа не насцярожыць. Але тут паўстае адразу шэраг пытанняў. Напрыклад, хто праводзіў псіхалагічныя тэсты, на якой мове, у якіх умовах, і нават, якім голасам пыталіся пра гэта ў дзяцей. У дадзеным выпадку такія псіхалагічныя моманты — вельмі істотная рэч. Каб атрымаць поўнае ўяўленне аб тым, як і што адбывалася ў 198-й школе-гімназіі, я звярнулася да дырэктара Рэспубліканскага цэнтра псіхалагічнага кансультавання сп. Аляксеева. Мікалай Дзмітрыевіч адказваў на мае пытанні на рускай мове, паколькі беларускай, аказваецца, не валодае. Ён паведаміў, што не мае ніякіх адносін да публікацыі «Якога колеру родная мова?». Больш таго, сп. Аляксееў увогуле не згодны з тымі высновамі, якія зроблены ў газетнай нататцы. Работа ў 198-й школе-гімназіі, пацвердзіў ён, сапраўды праводзілася пад яго кіраўніцтвам, дзяцей распытвалі. Але была зроблена толькі спроба ўдакладніць, «насколько эффективно воспринимают содержание образования по тем или иным предметам дети в рамках начальной школы». Была пастаўлена мэта, сказаў М. Д. Аляксееў, псіхалагічнымі метадамі вызначыць, якая мова для дзяцей родная, а якая другасная. У час псіхалагічнага даследавання ў дзяцей пыталіся, якую тэлеперадачу яны любяць глядзець ахвотней, «Калыханку» ці «Спокойной ночи, малыши», якія яны чытаюць кніжкі, на якой мове размаўляюць дома, а таксама з сябрамі на перапынках, у музычнай школе. Мяркуючы па адказах дзяцей, як адзначыў Мікалай Дзмітрыевіч, можна было прыблізна вызначыць, якая мова ўсё ж для іх больш блізкая, беларуская альбо руская. Былі атрыманы толькі нейкія прыватныя вынікі, з якімі яшчэ вельмі рана выходзіць на фарміраванне грамадскай думкі. Дырэктар цэнтра падкрэсліў: «Я не поддерживаю те материалы, которые попали в «Добрый вечер», и считаю, что, поскольку психология — вещь интимная, конфиденциальная, то тот, кто дал этот материал, нарушил этические нормы». Відаць, не прыходзіцца сумнявацца ў інтымнасці правядзення псіхалагічных тэстаў, бо ў гэты час, па словах дырэктара 198-й школы-гімназіі, настаўнікі ў аўдыторыю не дапускаліся. Далей Мікалай Дзмітрыевіч адзначыў, што яны сапраўды вызначылі, што большасць дзяцей усё ж лічыць сваёй роднай мовай рускую, але гэты вывад яшчэ не можа быць паказчыкам эфектыўнасці вучэбнай дзейнасці. На пытанне пра колеры беларускай мовы дырэктар Цэнтра адказаў: «Я ничего не могу сказать по этому поводу... Как мне известно, наш Центр никаких официальных интервью по этому поводу не давал. Я полагаю, что проблема обучения русскоязычных детей на белорусском языке в школе требует длительного лонгитюдного исследования. Возможно, первые результаты мы можем обобщить лишь через несколько лет». З гэтым сапраўды нельга не пагадзіцца. Але...

Словам, пасля сустрэчы з дырэктарам Цэнтра ў мяне ўзнікла жаданне пагаварыць на гэтую ж тэму з журналісткай Таісай Хартановіч: усё ж цікава — дык адкуль з'явіліся гэтыя «колеры» мовы ў адказах вучняў? На вялікі жаль, калега нервова ўспрыняла мой тэлефонны званок і паведаміла толькі, што матэрыялы атрымала ў спадара Аляксеева. Няўжо сама «ўбачыла» іх у «каляровым» святле? Тады навошта менавіта такім чынам размеркаваныя адценні?

Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Мова і мы*

## Як пішам, як гаворым

Чуць, як непісьменна гавораць некаторыя «простыя людзі», безумоўна, непрыемна. Карыстаюцца яны, як сказаў Янка Брыль, пераважна беларуска-руска-польскай трасянкай. А чуць і чытаць некаторых пісьменнікаў ды журналістаў, калі такое трапляецца, куды горш. Асабліва тут вылучаюцца Беларускае тэлебачанне і радыё. Хапае «перлаў» і ў перыядычных выданнях, трапляюцца яны нават у «ЛіМе», «Беларусі», «Звяздзе». Грэшыць «Народная газета», у чым ёй, відаць, «спрыяе» двухмоўе. Вось узоры.

## Слон... пайшла?

На тэлеэкране Вольга Іпатава. Усе бачаць: гэта жанчына. Аднак надпіс сведчыць: «Пісьменніца Вольга Іпатава». Ісцінна так. На экране яшчэ жанчына. Але надпіс абвяргае: «Бібліятэкар».

Чуючы ды бачачы, чытаючы такое, я думаю: няўжо хутка пачнуць гаварыць «слон... пайшла»? Праўда, у апошні час усё больш жанчын носяць штаны і смаляць цыгарэты. Але ж гэта не пазбаўляе іх прыналежнасці да прыгожага полу. То таму з дзіўнай настойлівасцю журналісты даводзяць адваротнае?

Не хочацца паўтараць банальную ісціну, але даводзіцца: няма ў беларусаў для вызначэння прафесіі жанчын, акрамя некаторых выключэнняў, слоў тыпу бібліятэкар, пісьменнік, доктар, прадстаўнік і г. д., а ёсць — бібліятэкарка, пісьменніца, доктарка, прадстаўніца... Няўжо тым, хто піша ці гаворыць наадварот, няўцям, што яны зневажаюць гэтым, урэшце, сваіх маці, сёстраў, жонак?

Дарэчы, мне ні раз не даводзілася сустракаць: «даяр» ці «свінар Марыя». То чаму адным — адно, другім — другое? На тэлеэкране напісана: «Захарава — прадстаўнік» і тут жа «Круцько — супрацоўніца».

Усё ж няхай будзе — слон пайшоў, а доктарка вылечыла.

## Па полю?

Па тэлевізары безупынна чуеш: па гэтаму пытанню, па патруляванню, па выяўленню, па мастацкаму шклу, па паўночнаму ўсходу, па сціранню, па пашпарту, па збыту, па хакею, па валейболу, па безнаяўнаму разліку, па настольнаму тэнісу і г. д. Міжволі думаецца: чаму беларускае тэлебачанне так настойліва працягвае русіфікацыю? Не хочацца верыць, нібы ў шматлюдным калектыве ніхто не ведае, што па-беларуску правільна: па гэтым пытанні, па патрабаванні, па выяўленні, па мастацкім шкле... Ёсць жа на Белтэлерадыё не толькі начальства, якое, як вядома, не дужа стаіць за беларускасць. Ёсць жа стылісты, карэктары. Ды і дыктары павінны ведаць сваю прафесійную мову і хоць час ад часу гартаць даведнік па правапісу.

## Чаму «аб»?

Зазірнуў у «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». У першым томе на 29 старонцы тлумачыцца ўжыванне прыназоўніка «аб». «Аб'ектыўныя адносіны. 1. з В. Ужываецца пры ўказанні на прадмет, з якім хто-, што-н. зблізкаецца. 2. з М. Паказвае на прадмет гаворкі, думкі, пачуцця. 3. з М. Паказвае на прадмет харчавання. Часовыя адносіны. 4. Разм. Паказвае на адрэзак часу, у межах якога завяршаецца дзеянне». Па ўсіх трактоўках даюцца прыклады: 1. Дождж б'ецца аб хвалі ракі. 2. Іван сумуе аб працы, аб каласах жытніх. 3. Аб адной вадзе сыт не будзеш. 4. Вярнуўся з горада аб адзін дзень.

Як бачна, нават намёку няма, што «аб» можна ўжываць замест «пра». А як ужываецца прыназоўнік «пра», сказана ў чацвёртым томе на стар. 298: «Спалучэнне з прыназоўнікам «пра» выражае аб'ектыўныя адносіны; ужываецца пры абазначэнні прадмета размовы, думкі або пачуцця... У загалоўках — для ўказання на тэму, аб чым гаворыцца ў апавяданні, главе, раздзеле і пад. «Прыклады: пра выхадныя дні,пра сяброў, пра час і пра сябе. Не сумняваюся, што па тэлевізары гучала б: аб выхадных днях, аб сябрах.

Дзіўна, што ў большасці перыядычных выданняў не прытрымліваюцца толькі што названых правілаў. Замест «пра» пішуць (а па тэлебачанні і радыё — гавораць) «аб». Гэта зноў жа русізм: «аб» выкарыстоўваць у якасці рускага «об». Вось і гуляюць на старонках газет, часопісаў, у эфіры выразы накшталт «аб аўтары» (замест «пра аўтара), «аб пытанні» («пра пытанне»), «аб здароўі» («пра здароўе» і г. д.

## Тыпаграфія ці цыпаграфія?

Яшчэ адна навала — «прыціхшыя», «прамарудзіўшыя», «змякчэўшыя»... Такая форма зусім не ўласцівая беларускай мове. Пішацца і гаворыцца «прыціхлыя», «якія прамарудзілі», «змякчэлыя». А хіба можна назваць кінафільм «Кветкі запаздаўшыя»? (запозненыя). Прыгадваецца анекдот пра двух «грамацеяў». Яны паспрачаліся, як будзе па-беларуску: «тыпаграфія» ці «цыпаграфія». Нарэшце здагадаліся зазірнуць у слоўнік, а там... «друкарня».

Часцей трэба заглядваць у слоўнік, спадары.

## Ні ў якія вароты

А колькі іншых моўных недарэчнасцей выдаюць сродкі масавай інфармацыі. «У чацвёрты раз» — поўная калька з рускага, у нас проста «чацвёрты раз». Ужываюць «у чарзе за малаком» замест «у чарзе па малако». «Пайду за грыбамі» замест «пайду па грыбы».

І ўжо ні ў якія вароты не лезе выраз «пісьменнікі і паэты». Пісьменнікі — гэта ўсе літаратары: прazaікі, паэты, драматургі... То ці можна змешваць цэлае з часткай?

«Жывёлы і насякомыя». Зноў тое самае. «Насякомыя,— як сказана ў «Тлумачальным...»,— клас безпазваночных членістаногіх жывёл».

А гэта... не ведаю, як і назваць, мяркуйце самі. «Спала з адкрытай форткай». «Паранена каля 29 чалавек». Няўжо такое можа быць?

## Што рабіць?

Калі хто адбіўся ад роднай мовы, не вывучаў яе ў школе, трэба тэрмінова вывучаць. Ісціна, здаецца, не патрабуе доказу. Працаваць у сродках масавай інфармацыі з такім «веданнем» мовы, пра якое сказана тут, проста непрыстойна. Крыўдна, што падобныя «грамацеі» падаюць беларускую мову ў гэткім непрывабным выглядзе. Ды ў слоўнікі, паўтару, трэба глядзець, у слоўнікі.

І не толькі журналістам. Але і навукоўцам. А то некаторыя з іх выступаюць за чысціню беларускай мовы, а самі так пішуць, што чытаеш — нібы мякіну жуеш.

Не вызначаюцца бездакорнай пісьменнасцю і ўрадавыя пастановы. У іх стракацяць тыя ж канчаткі слоў (накшталт «па полю»), прыназоўнік «аб» замест «пра» і г. д. У тым ліку ў назвах законаў. «Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» замест «Закон пра друк...» З афіцыйных дакументаў усё гэта зноў жа пераходзіць у іншыя сферы ўжывання мовы... ужо на нібыта «законных» падставах.

Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

М. В. БІЧ

# Беларусы: нацыянальнае жыццё і культура ў другой палове XIX — пачатку XX ст.

*(Працяг. Пачатак у № 15).*

Па аграрным пытанні прапагандавалася патрабаванне сацыялізацыі зямлі і ўраўняльнага землекарыстання. У сакавіку 1905 г. БСГ разам з эсэрамі арганізавала ў Менску сялянскі з'езд, які падтрымаў яе платформу і ўтварыў Беларускі сялянскі саюз. Рашэнні з'езда мелі рэвалюцыйна-дэмакратычны характар.

У студзені 1906 г. у Менску адбыўся II з'езд БСГ, на якім былі прыняты новыя праграма і арганізацыйны статут, выбраны ЦК у складзе Івана і Антона Луцкевічаў, Вацлава Іваноўскага і Алеся Бурбіса. У новай праграме заяўлялася, што БСГ арганізуе «працавітую беднату Беларускага краю без адрознення нацыянальнасцей» (а не толькі працоўных-беларусаў, як у першай праграме). Канчатковая і бліжэйшая мэты заставаліся ранейшымі. Новым было тое, што БСГ выказалася за ўтварэнне Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі, за дзяржаўную аўтаномію Беларусі ў складзе гэтай рэспублікі і культурна-нацыянальную аўтаномію нацыянальных меншасцей краю.

Да канца лета 1906 г. БСГ змагла арганізаваць у Вільні выданне першай легальнай штотыднёвай газеты на беларускай мове «Наша доля». Магчымасць такога выдання адкрылася пасля царскага Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г., якім абвяшчалася свабода слова, друку, сходаў, саюзаў і г. д. Аднак з-за недахопу сродкаў справа зацягнулася аж да 1 верасня 1906 г., калі выйшаў у свет першы нумар «Нашай долі». Лепшы час для выдання быў упушчаны. Пасля роспуску I Дзяржаўнай думы летам 1906 г. наступленне контррэвалюцыі ўзмацнілася. За публікацыю рэвалюцыйна-дэмакратычных матэрыялаў пяць з шасці нумароў «Нашай долі» былі канфіскаваны, а ў студзені 1907 г. рашэннем Віленскай судовай палаты яе выданне было забаронена.

Не чакаючы забароны «Нашай долі», лёс якой ужо быў перадвызначаны, лідэры БСГ з 10 лістапада 1906 г. пачалі выдаваць новую штотыднёвую газету «Наша ніва» больш памяркоўнага накірунку. Вырашэнне асноўных сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем у газеце звязвалася ўжо не з рэвалюцыяй, а з Дзяржаўнай думай. Разам з тым БСГ працягвала і нелегальную дзейнасць.

Нягледзячы на пастаянныя атакі з боку рускіх і польскіх шавіністычных выданняў, іх паклёпніцкія, правакацыйныя публікацыі, «Наша ніва» ніколі не сыходзіла на нацыяналістычныя пазіцыі ў палеміцы з імі, не атаясамлівала сваіх ворагаў з рускім і польскім народамі. Заўсёды падкрэслівала, што гэтыя народы маюць вялікую навуку і культуру, а беларусам трэба вывучаць не толькі сваю, але і рускую, і польскую мовы. Разам з тым яна паслядоўна выкрывала рэакцыйны, шавіністычны характар палітыкі царызму на Беларусі і дзейнасці памешчыцка-клерыкальных партый і груповак, накіраванай на русіфікацыю і паланізацыю беларускага народа.

«Наша ніва» пратэставала супраць раздзелу яго па веравызнанні на «рускіх» і «палякаў», супрацьстаўляла гэтай палітыцы прапаганду нацыянальнай свядомасці і еднасці ўсіх беларусаў — і праваслаўных, і каталікоў. Яна настойліва патрабавала ўвядзення ў школу, царкву і касцёл на Беларусі беларускай мовы, пераходу іх на беларускія нацыянальныя пазіцыі.

Паступова расла папулярнасць «Нашай нівы», мацнелі яе сувязі з народам, а разам з тым фарміраваліся кадры нацыянальнай інтэлігенцыі, будзіліся народныя таленты. Толькі за першыя тры гады выдання газета надрукавала 906 уласных карэспандэнцый з 489 вёсак, мястэчак і гарадоў, 246 вершаў 61 паэта і 91 апавяданне 36 празаікаў. Пазней гэтыя паказчыкі значна выраслі. У 1910 г. аўтарская грамада яе складалася з 427 чалавек (карэспандэнтаў, паэтаў, празаікаў). Усе, дарэчы, пісалі ў газету бясплатна.

Пачынаючы з 1910 г., «Наша ніва» выдавала вельмі папулярны «Беларускі каляндар», адрасаваны сялянам. Наклад яго дасягаў 20 000 паасобнікаў. Вясной 1912 г. сельскагаспадарчы аддзел «Нашай нівы» быў пераўтвораны ў самастойны часопіс «Саха», які спачатку выдаваўся ў Вільні, а са снежня 1913 г. у Менску. Адначасова ў Менску з'явіўся яшчэ адзін парастак «Нашай нівы» — літаратурны месячнік для моладзі «Лучынка». Рэдактарам яго была А. Пашкевіч (Цётка). Вясною 1912 г. у Пецярбургу пачаў выходзіць літаратурны і грамадска-палітычны альманах «Маладая Беларусь». Супрацоўнічалі ў ім нашаніўскія паэты, празаікі, публіцысты. На хвалі нацыянальнага адраджэння ў студзені 1913 г. з'явілася штотыднёвая каталіцкая газета «Беларус» (выдавалася лацінкай).

Не менш прыкметныя зрухі адбыліся ў развіцці беларускага кнігадруку. У 1910—1914 гг. выйшла ў свет 77 беларускіх кніжак агульным накладам 226660 паасобнікаў. Асноўную частку кніжнай прадукцыі выпусціла беларуская выдавецкая суполка ў Пецярбургу «Загляне сонца і ў наша ваконца» і выдавецтва «Нашай нівы», якія цесна ўзаемадзейнічалі.

Нацыянальны друк забяспечыў публікацыю твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Каганца, Ц. Гартнага, А. Гаруна, З. Бядулі, К. Буйло і многіх іншых паэтаў, празаікаў, драматургаў. У беларускую літаратуру прыйшлі дзесяткі таленавітых творцаў. Голас іх пачуў беларускі народ, пачуў і прыхільна адгукнуўся ўвесь славянскі свет.

Дзейнасць «Нашай нівы», абуджаных і згуртаваных ёю таленавітых пісьменнікаў, найперш, вядома, Я. Купалы і Я. Коласа, адыграла выключную ролю на завяршальным этапе станаўлення новай беларускай літаратурнай мовы. Выданне газеты спынілася ў жніўні 1915 г. пад пагрозай акупацыі Вільні нямецкімі войскамі ў час Першай сусветнай вайны.

У сістэме сярэдняй адукацыі на Беларусі ў канцы 60-х гадоў дзейнічалі 6 мужчынскіх і 4 жаночыя класічныя гімназіі, 2 прагімназіі (няпоўныя гімназіі), Горы-Горацкае земляробчае вучылішча, Полацкі кадэцкі корпус, 4 духоўныя семінарыі. У іх займалася ўсяго 3265 навучэнцаў. З прычыны высокай платы за навучанне дзеці сялян у сярэдняй школе ў канцы 90-х гадоў складалі толькі 6,5 працэнта. У 70—80-я гады ў Пінску, Менску і Магілёве былі адкрыты рэальныя вучылішчы, якія давалі сярэднюю адукацыю з прыродазнаўчым і тэхнічным ухілам.

У 1887 г. міністрам народнай асветы быў выдадзены сумна вядомы цыркуляр, якім забаранялася прымаць у гімназіі «дзяцей фурманаў, прачак, дробных гандляроў і да т. п.»

Да канца 90-х гадоў істотных зрухаў у сярэдняй адукацыі на Беларусі не адбылося: у 1898 г. колькасць навучальных устаноў павялічылася да 20, а навучэнцаў — да 5 тысяч. Пачатковай адукацыяй у народных вучылішчах і царкоўнапрыходскіх школах у гэты час было ахоплена 216,1 тыс. дзяцей. Удзельная вага пісьменных людзей на Беларусі і ў канцы XIX ст. заставалася невысокай — усяго 25,7 працэнта. У вёсцы яна зніжалася да 16 працэнтаў.

Змены, што адбыліся ў грамадска-палітычным жыцці краіны ў сувязі з рэвалюцыяй 1905—1907 гг., буржуазныя пераўтварэнні ў ходзе сталыпінскіх рэформ, выклікалі неабходнасць істотнага абнаўлення і пашырэння сеткі навучальных устаноў. Царкоўнапрыходскія школы паступова замяняліся народнымі вучылішчамі. У 1905—1914 гг. колькасць вучняў у іх павялічылася амаль у тры разы і дасягнула 305 тыс. Хутка расла колькасць гімназій і рэальных вучылішчаў: у 1914 г. іх налічвалася 122. Паляпшалася падрыхтоўка настаўніцкіх кадраў. У 1909—1916 гг. былі адкрыты настаўніцкія інстытуты ў Віцебску, Магілёве і Менску, новыя настаўніцкія семінарыі ў Рагачове, Оршы, Барысаве, Гомелі і Бабруйску. Аднак і ў 1910 г. у Віленскай навучальнай акрузе з-за адсутнасці памяшканняў і настаўнікаў не былі прыняты ў школу 41 працэнт дзяцей у гарадах і амаль 25 працэнтаў — у вёсках.

На развіцці навукі ў Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. вельмі адмоўна адбівалася адсутнасць вышэйшых навучальных устаноў. У сувязі з гэтым таленавітыя вучоныя, ураджэнцы Беларусі, былі вымушаны жыць і працаваць за межамі радзімы (палеантолаг У. Кавалеўскі, біёлаг П. Гаранінаў, санскрытолаг К. Касовіч, фізік і хімік Э. Урублеўскі, акадэмік-філолаг Я. Карскі, прафесар-гісторык М. Доўнар-Запольскі і многія іншыя). Зародкі навуковых устаноў прыродазнаўчага і сельскагаспадарчага профілю з'явіліся на Беларусі толькі ў 1910—1913 гг. (Беняконьская сельскагаспадарчая і Менская балотная станцыі).

У пачатку XX ст., як і ў 60—90-я гады, інтэнсіўна вяліся этнаграфічныя даследаванні беларускага народа (мовы, фальклору, этнічных межаў, сямейнага і грамадскага побыту, народнага мастацтва, адзення, жылля, прылад працы і інш.). Найбольшым укладам у вывучэнне мовы беларусаў з'явілася трохтомнае (у 7 кнігах) даследаванне Я. Карскага пад назвай «Белорусы» (апублікавана ў 1903—1922 гг.). Карскі фундаментальна абгрунтаваў этнічную самастойнасць беларускай мовы ў сям'і іншых славянскіх моў, вызначыў тэрытарыяльныя межы яе распаўсюджання і склаў адпаведную карту.

Буйныя навуковыя даследаванні па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі ў пачатку XX ст. апублікаваў М. Доўнар-Запольскі — адзін з пачынальнікаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі і этнаграфіі. «Кароткую гісторыю Беларусі» ў 1910 г. выдаў В. Ластоўскі — адзін з кіраўнікоў беларускага нацыянальнага руху.

Якасныя змены ў развіцці друку адбыліся ў сувязі з першай расійскай рэвалюцыяй. 1905 год змёў папярэднюю цэнзуру, ліквідаваў манаполію казённага друку і рускамоўных выданняў, адкрыў магчымасць для з'яўлення на Беларусі газет і часопісаў дэмакратычнага і ліберальнага накірунку на ўсіх мясцовых мовах — беларускай, літоўскай, польскай, яўрэйскай. У выніку ў 1914 г. у 5 заходніх губернях налічвалася 109 газет і часопісаў. З іх 74 выходзілі ў Вільні, у тым ліку тры — на беларускай мове.

Беларускамоўныя кнігі ў пераважнай большасці выдаваліся тады за межамі сучаснай Беларусі — у Пецярбургу, Вільні, а таксама за граніцай. За 1901—1917 гг. улічана 245 такіх кніг. З іх да мастацкай літаратуры адносіліся 108, навукова-папулярнай — 43, агітацыйнай — 16, вучэбнай — 13, рэлігійнай — 11, музычнай — 6, іншай — 48.

Нацыянальнае адраджэнне беларусаў у пачатку XX ст. найбольш поўна і яскрава адлюстравалася ў мастацкай літаратуры. Менавіта ў гэты час яна ўзнялася на якасна новы ўзровень і ў моўна-мастацкіх, і ў ідэйных, і ў жанрава-стылявых адносінах. Абуджаныя рэвалюцыяй, да творчай дзейнасці на роднай ніве далучыліся дзесяткі паэтаў, празаікаў і публіцыстаў, якія на старонках тагачаснага нацыянальнага друку змаглі выказаць «цэламу свету» душу і пачуцці забітага і прыніжанага, вякамі прыгнечанага «мужыцкага народа», яго імкненне да волі і шчасця, да роўнасці і братэрства з іншымі народамі.

Менавіта тады раскрыліся творчыя геніі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, яркія таленты Цёткі, Каруся Каганца, Алеся Гаруна, Цішкі Гартнага, Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага і многіх іншых змагароў за нацыянальнае адраджэнне. Дзякуючы ім, маладая беларуская літаратура к пачатку Першай сусветнай вайны ў некаторых адносінах наблізілася да ўзроўню больш сталых і развітых літаратур славянскага свету і ўключылася ў еўрапейскі літаратурны працэс.

Новы крок быў зроблены ў развіцці нацыянальнай драматургіі. Вялікай папулярнасцю карысталіся камедыі «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Паўлінка» і «Прымакі» Я. Купалы. Характэрнай асаблівасцю маладой беларускай літаратуры з'яўляўся яе глыбокі дэмакратызм. Яна стваралася прадстаўнікамі працоўных — народнай інтэлігенцыяй — і адрасавалася ім.

На пачатку XX ст. на тэатральных сцэнах Беларусі панавалі гастрольныя рускія і ўкраінскія трупы. Пад іх уплывам абуджаліся мясцовыя артыстычныя таленты. У перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг. у шэрагу гарадоў і мястэчак краю ўзніклі аматарскія гурткі, якія сталі наладжваць «беларускія вечарынкі» з выступленнямі хораў, танцораў, дэкламацый твораў беларускіх пісьменнікаў. Пазней у праграму «вечарынак» уключаліся пастаноўкі п'ес.

Так пачыналася і дзейнасць «Першай беларускай трупы», створанай таленавітым артыстам, пастаноўшчыкам танцаў і рэжысёрам Ігнатам Буйніцкім (1861—1917 гг.). З 1910 г. трупа Буйніцкага пераўтварылася ў нацыянальны прафесійны тэатр, які складаўся з трох асноўных груп: хору, танцавальнага калектыву і драматычнай трупы. Сталага месца тэатр не меў, дзейнічаў як гастрольны калектыў. У 1910—1913 гг. ён пабываў амаль ва ўсіх гарадах і многіх мястэчках Беларусі, неаднаразова выступаў у Вільні, Варшаве і Пецярбургу і ўсюды карыстаўся нязменным, вялікім поспехам.

У Вільні ў 1911 г. на аматарскіх асновах дзейнічаў «Беларускі музычна-драматычны гурток» пад кіраўніцтвам Алеся Бурбіса. 27 студзеня 1912 г. ён ажыццявіў першую пастаноўку «Паўлінкі» Я. Купалы. На Купалле гурток наладжваў масавыя нацыянальныя тэатралізаваныя прадстаўленні, якія рабілі вялікае ўражанне ў горадзе.

На развіцці выяўленчага мастацтва ў Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. па-ранейшаму адмоўна ўплывала адсутнасць мясцовых прафесійных мастацкіх школ. Большасць жывапісцаў, чыя творчая дзейнасць у той час была звязана з Беларуссю, вышэйшую прафесійную падрыхтоўку атрымалі ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, некаторыя — у Маскоўскім вучылішчы скульптуры і дойлідства, а таксама за мяжой. Да ліку найбольш выдатных з іх адносіліся Н. Сілівановіч, А. Гараўскі, В. Бялыніцкі-Біруля, Ф. Рушчыц, С. Жукоўскі, К. Стаброўскі, А. Каменскі, С. Богуш-Сестранцэвіч, Ю. Пэн, Я. Кругер, Л. Альпяровіч.

Матэрыял скарочаны; тэкст да друку падрыхтаваў

**Мар'ян ВІЖ.**

# Вучымся!

Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

ПАДНЯЦЬ (зрабіць больш значным у чыіх-н. вачах, думцы, зрабіць каму-, чаму-н. больш высокае грамадскае становішча, больш высокую рэпутацыю) *Пан Зыгмусь стараецца падняць свой аўтарытэт.., і гэта яму лёгка ўдаецца* (Колас), УЗНЯЦЬ *А вось у іншым месцы Каралёва высока ўзнялі б* (Салавей), УЗВЫСІЦЬ *Мне хацелася зрабіць нешта асаблівае, выключнае, што ўзвысіла б мяне ў вачах дзяўчыны, дазволіла стаць упоравень з ёй* (Навуменка), УЗНЕСЦІ узмацн. *Сіла любві да народа і чалавека-працаўніка, нянавісць да іх ворагаў — вось што прывяло М. Танка ў паэзію, напоўніла яе героікай барацьбы, узнесла імя Танка як паэта-рэвалюцыянера* (Лойка). — Незак.: **Падымáць, паднімáць, узнімáць, уздымáць, узвышáць, узнóсіць.**

1. ПАДОБНЫ *на каго, да каго* (які мае падабенства з кім-н.) *На парозе з'явіліся дзве невялікага росту бялявыя дзяўчынкі, настолькі падобныя адна да аднае, што іх можна было адрозніць толькі па прычосках* (Грахоўскі), ВЫЛІТЫ *хто Зося была выліты бацька* (Чорны), РЫХТЫК ( у значэнні нязменнага прыметніка) разм. *У клубе сядзеў дзядзька рыхтык наш Пракоп Кульгавы* (Хведаровіч). *Яшчэ калі малым быў, аднойчы, на вадохрышча, вылепіў са снегу станавога, але ж рыхтык ён* (Гурскі), (І, УСЕ) КРОШКІ (або КРОШАЧКІ, КРОПЕЛЬКІ) ПАБРАЎ (або ПАДАБРАЎ) *чые, каго, у каго, з каго;* разм. (вельмі падобны да каго-н. — з бацькоў ці родных) *Косцік... усе яе кропелькі пабраў. Такі ж лупаты, такі ж, мусіць, і шалапутны, як Нюрка* (Арабей). *Зірні, Даніла, такі ж самы, як ты, і крошачкі пабраў, і губкі гэтак жа зацяў...* (Колас). *Дзядзька Міхалка, які і крошачкі падабраў прадзеда, апошні з гэтай дынастыі* (Макарэвіч). *Шырокі Цімох у плячах, тонкі ў поясе. Кропелькі бацькавы пабраў!* (Міська), ВОЛАС У ВОЛАС (ГОЛАС У ГОЛАС) разм. (такія падобныя, што цяжка адрозніць) *Выходзяць адтуль тры статныя хлопцы-малайцы — твар у твар, волас у волас* (Якімовіч). [*Стары слуга:*] *— Удаўся сыночак у бацьку — волас у волас, голас у голас* (В. Вольскі).

2. ПАДОБНЫ (які мае шмат агульнага, аднолькавага з кім-, чым-н.) *Другі падобны выпадак здарыўся ў курортным горадзе Дуброўніку, дзе мы жылі некалькі дзён* (Брыль), АНАЛАГІЧНЫ [*Сідарук*] *успомніў, што ў апошнія дні атрымалі аналагічныя лісты і яшчэ некаторыя з таварышаў* (Галавач).

3. ПАДОБНЫ *на што, да чаго, чаму* (які мае падабенства да чаго-н. па якіх-н. уласцівасцях, якасцях, прыметах і пад.) *За гэты час Пётр пахудзеў, твар яго выцягнуўся, а вусы і валасы сталі падобныя на пшанічныя каласы* (Пятроў), АНАЛАГІЧНЫ *чаму Роля Купалы ў збіранні літаратурных сіл Беларусі пэўным чынам аналагічная ролі Горкага, які аддаваў максімум энергіі выхаванню дэмакратычных пісьменнікаў Расіі* (Ярош), БЛІЗКІ *чаму, да чаго Герой «Дзённіка» блізкі асобе самога аўтара* (Бярозкін), [*Думка*] *стварала ўпэўненасць, што Гарус калі не аднадумец, дык блізкі да яго чалавек* (Чорны). *Блізкі да арыгінала пераклад,* РОДНАСНЫ *чаму, з чым;* узмацн. *Хемінгуэй мала чаму навучыўся б у вялікага празарліўца, калі б не меў у душы роднаснага Талстому і ягонаму незвычайна цвярозаму погляду на свет* (М. Стральцоў).

**ПАДОНКІ** (дэкласаваныя, разбэшчаныя, злачынныя элементы грамадства) *І вось Кроер памёр. Цяпер сапраўды не будзе каму паіць падонкаў* (Караткевіч). *Снавалася тут без упынку Падонкаў людскіх барахло* (Колас), ПАДОННЕ зборны назоўнік *Цікавым зборышчам падоння была тая пушчанская адміністрацыя* (Машара).

ПАДПАЛ (смалякі, трэскі, ламачча і пад., якія служаць для распальвання) *Даніла працаваў блізка ля балаціны і, калі ехаў пад вечар дадому, укінуў у воз пару пнёў — жонка наказала, каб прывёз на падпал смалякоў* (Капыловіч), ПАДПАЛКА *Параска ўзяла сасновы, коратка адпілены, як на падпалку, круглячок з печы, з-пад канапы — сякеру і, прысеўшы на пальчыкі, пачала шчапаць* (Лобан).

ПАДПАЛІЦЬ (наўмысна знішчыць агнём што-н., учыніць пажар) *Цімох не мог знайсці нічога лепшага, як падпаліць панскую стадолу* (Колас), ЗАПАЛІЦЬ *— Нашу вёску запалілі! — заплакаў хлопец* (Чорны), ПУСЦІЦЬ (ЧЫРВОНАГА) ПЕЎНЯ (ПЕВУНА) узмацняльнае, размоўнае *— Няйнакш, як пану пеўня пусцілі... — гаварыў Міхал* (С. Александровіч). *Адзін ёсць шлях: пусціць паскудзе тайком уночы певуна* (Колас), ПУСЦІЦЬ (З) АГНЁМ (ДЫМАМ, ПЫЛАМ) узмацн., разм. *Заяві, а ён дом ноччу пусціць з агнём* (Куляшоў). *Усё агнём пусцім, каб пылу і праху не засталося ад паганых сцен* (Бядуля). *Улетку сорак чацвёртага... гітлераўцы... не паспелі пусціць мястэчковыя хаты з дымам* (Нядзведскі). *Яны маюць права пусціць усё з дымам і пажарам* (Чарот). *Можа злягуць пасевы, і дымам Вораг пусціць стрэхі сёл* (Танк). *Рэмуцёўцы ён* [*Пан Біспінг*] *пусціў дымам на вецер* (Дуброўскі).— *Пусцілі дымам гняздо, дык цяпер і косці старэчыя няма дзе прытуліць* (Шчарбатаў), ПУСЦІЦЬ З ДЫМАМ ДА БОГА разм. *Бо прыйдзем і з дымам пусцім хату да Бога* (Пестрак), ПУСЦІЦЬ СВЕЧКАЙ ДА БОГА разм. *Следства, можа, пазней павядуць, а спачатку пусцяць вёску свечкай да Бога. Пагараць і вінаватыя і невінаватыя* (Колас), ПУСЦІЦЬ АГОНЬ узмацн., разм. *А я на іх глядзеў і думаў, сказаць мне ці не пра тое, як мы з Яўхімкам пусцілі агонь у Кербічаў маёнтак* (Сабаленка).— Незаконачанае трыванне: **Падпáльваць, запáльваць, пускáць (чырвóнага) пéўня (певунá), пускáць (з) агнём (ды́мам, пы́лам), пускáць з ды́мам да Бóга, пускáць свéчкай да Бóга, пускáць агóнь.**

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку пры зваротку

*(Заканчэнне. Пачатак у № 15).*

5. Калі зваротак мае пры сабе часціцы **о, ну,** то яны цесна прымыкаюць да зваротка і выдзяляюцца знакамі прыпынку (коскай або клічнікам) разам з ім: *О Радзіма, табою напоўнена сэрца да краю* (П. Панчанка).

Калі ж пры зваротку знаходзяцца выклічнікі **о, ну,** то яны не прымыкаюць да зваротка, а аддзяляюцца ад яго коскай, клічнікам або шматкроп'ем (пры інтанацыйных замінках): *О, бурліва-кіпучыя хвалі!... Вам не страшны пажар навальніц* (П. Трус). *Ну, голубе, бывай здаровы і шчаслівы* (Якуб Колас). *О! Пятро Сымонавіч! Як вы сюды трапілі!* (У. Краўчанка).

6. Калі зваротак паўтараецца і суправаджаецца часціцай **а,** то коска ставіцца перад гэтай часціцай (часціца прымыкае да паўторанага зваротка і выдзяляецца знакамі прыпынку разам з ім): *Бабуля, а бабуля, колькі вам год?* (Б. Сачанка).

**Заўвага.** Калі паміж такімі звароткамі стаяць словы аўтара, а часціца **а** афармляецца пытальнай інтанацыяй, тады пасля гэтай часціцы ставіцца пытальнік, напр.: *Мы хутка паедзем у Поці, дзядзька Сімон? — спытаў Іліко, каб пачаць размову. Сімон маўчаў.— А? Дзядзька Сімон?* (Э. Самуйлёнак).

Пры звароткáх, якія не паўтараюцца, можа знаходзіцца выклічнік **а;** ён не прымыкае да звароткаў, а аддзяляецца ад іх коскай, клічнікам (пры ўзмоцненай інтанацыі) або шматкроп'ем (пры інтанацыйных замінках): *А, Андрэй, вось не пазнаў, браце, цемень, бачыш* (М. Лынькоў). *А! Дзядзька Пракоп! Што новага чуваць?* (Якуб Колас). *А... Мікола! Куды ж ты падаўся, дзе цябе шукаць?* (П. Пестрак).

7. Некалькі звароткаў, якія звязаны паміж сабой пры дапамозе бяззлучнікавай сувязі, аддзяляюцца адзін ад другога коскай або клічнікам, а ад астатняй часткі сказа — тымі знакамі прыпынку, што і адзіночныя звароткі: *Беларусь-радзіма, вольная старонка, вольным тваім далям краю не аддаць* (А. Русак). *Сябры! Дарагія мае!.. Прыміце верш ад сціплага паэта* (Якуб Колас).

Калі звароткі звязаны злучнікамі **і, ды** (у значэнні **і**), тады паміж гэтымі звароткамі знакі прыпынку не ставяцца: *Ой, лясы-бары ды лугі-разлогі! Цераз вас ідуць пуцінкі-дарогі* (М. Багдановіч). *Дзень добры, вам, лясы і далі, прасторы вольныя зямлі!* (Якуб Колас).

Злучнік **і** можа звязваць звароткі ў пары, паміж якімі звычайна ставіцца коска: *Хлопцы, цёткі і дзяўчаты, дзядзькі, сёстры і браты, нашай песні ўзмах крылаты не стрымаюць і вятры* (М. Машара).

8. Калі аднатыпныя звароткі або асобныя кампаненты развітога зваротка разрываюцца членамі сказа, то кожны са звароткаў або яго кампаненты аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Спі, сыночак, спі, сакалік, ды расці!* (Якуб Колас).

Калі адзін са звароткаў або яго кампанентаў знаходзіцца ў пачатку сказа, то пасля іх можа ставіцца коска ці клічнік (пры ўзмоцненай інтанацыі), напр.: *Іван! Хадзі, брат, сюды. Пасядзім, пагамонім...* (Якуб Колас).

*Культура мовы*

## Сёлета, сёлета ўрадзіла золата...

**Згаданыя словы — з народнай песні... Яна пра нараджэнне дзіцяці, пра радасць бацькоў... Спяваючы гэтую песеньку немаўлятам і з любой іншай нагоды, у любы іншы момант, калі на шчаслівую маці ці бабулю нахлынае радасць...**

**Прыпеў спяваецца лёгка, бо і словы ў ім лёгкія, натуральныя...**

**Першае з іх — сёлета. Любую мову яно ўпрыгожыць. Любы народ лічыў бы за шчасце мець такое мілагучнае, ёмкае слова. А вось у нас далёка не ўсім яно да густу, а можа проста не ўсе ведаюць яго, не ўсе разумеюць. Ва ўсякім разе ў друку скрозь мільгае:**

**«За дзевяць месяцаў бягучага года перавялі 13 мільярдаў рублёў...», «Страты сталічнага бюджэту за дзевяць месяцаў бягучага года пераваліл за 19 мільярдаў рублёў» («Добры вечар», 10 снежня 1993 г.), «За дзесяць месяцаў бягучага года ў Калінкавіцкім цэнтры занятасці насельніцтва зарэгістравана 1256 беспрацоўных», «За верасень месяц бягучага года я зарабіў у сваёй дзяржавы 55 тысяч рублёў» («Народная газета», 19 і 23 лістапада 1993 г.), «За дзесяць месяцаў бягучага года выпуск прамысловай прадукцыі прадпрыемствамі Магілёўскай вобласці ў супастаўных цэнах знізіўся на 2,7 працэнта» («Звязда», 27 лістапада 1993 г.).**

**І такіх прыкладаў безліч. Імі можна не адну гаць загаціць, не адну бочку засаліць. Толькі навошта? Яны ж смецце. Іх трэба выкідваць за парог, ды і яшчэ далей ад яго, і даваць дарогу нашаму слову «сёлета», якое і адпавядае расійскаму «в текущем году».**

**Тыя ж самыя сказы, што працытаваныя тут, пераканаы, з жывым беларускім словам прагучалі б больш натуральна. Паправім адзін з іх. Прыкладам, першы — «Сёлета за дзевяць месяцаў перавялі 13 мільярдаў рублёў».**

**То як? Больш зграбна і натуральна, а галоўнае, і мілагучна! Астатнія сказы паспрабуйце апрацаваць самі.**

**Некаторыя аўтары, адчуваючы грубаватасць калькі «бягучы год», яе немілагучнасць, карыстаюцца спалучэннем слоў гэты год, у гэтым годзе. «Тэмпы росту злачыннасці ў гэтым годзе знізіліся... Яшчэ ў мінулым годзе яны складалі 30 працэнтаў. Паводле даных МУС рэспублікі, за 11 месяцаў бягучага года колькасць злачынстваў павялічылася...» («Добры вечар», 28 снежня 1993 г.). «У гэтым годзе гэта другое падобнае злачынства ў Оршы», «9 лістапада гэтага года, зробленыя прыкрыя карэктарскія памылкі, якія мяняюць сэнс думак на процілеглы» («Народная газета», 17 лістапада 1993 г.).**

**Што ж, пэўна можна і так. Такія спалучэнні бліжэй да ладу беларускай мовы, яе мелодыкі, хаця збег двух зычных, а ў нашым прыкладзе нават трох слоў, якія пачынаюцца з аднаго гука, паводле закона мілагучнасці, непажаданы. Мабыць, па-беларуску больш дакладна сказаць і напісаць «сёлетні год», хаця і ў такім спалучэнні бачыцца спроба захаваць расійскую моўную мадэль, расійскую форму. Параўнаем: «бегущий год» — «сёлетні год». «Слова ў слова». Праўда, расійскасць яе ўжо не такая адчувальная, як у скалькаваным спалучэнні «бягучы год».**

**...Сёлета, сёлета ўрадзіла золата... Хто хоча пісаць ды размаўляць натуральнай беларускай моваю, лепшага адпаведніка расійскаму «бегущий год», чым слова «сёлета», «сёлетні», і жадаць не трэба. Нашы продкі мелі светлы розум і чуйнае вуха!**

**Мы ж настваралі калек, не разабраліся з імі належна, псуём імі штодня нашу мілагучную мову і спакваля забываемся пра першароднае.**

**Ці ж па-гаспадарску гэта?..**

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

*Філалагічныя загадкі*

## Марá

**У раздзеле «Смерць Міхала» цудоўнай паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» чытаем:**

**Яго цікавіць лёс уласны,**
**Лёс пагражаючы, няясны,**
**Зацята схаваны, замкнёны,**
**Бы кара цёмнае праклёны,**
**Што кожны момант над табою**
**Звісае страшнаю *марою,***
**І кожны час яна гатова,**
**Свядома або выпадкова,**
**Узнесці грозна булаву**

**І апусціць на галаву,**

**І разам кончыць, адным махам,**
**З жыццём і з цёмным гэтым страхам.**

**Паразважайце, што азначае слова *марою?* Ці, паводле сэнсу, адпавядае яно слову *мáра* (націск на першы склад), якое падае І. І. Насовіч у «Слоўніку беларускай мовы», — прывід, здань? (Іншыя слоўнікі паўтараюць гэтае слова ўслед за Насовічам.) Напішыце нам пра свае меркаванні.**

**З. С.**




# «НАШ КАСЦЮШКА СЛАЎНЫ БЫЎ...»

*Імя Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, кіраўніка вызвольнага паўстання 1794 года, ведае ўвесь свет. Яму пастаўлены помнікі ў гарадах ЗША, амерыканскія негры згадваюць імя гэтага беларускага шляхціца з пашанай і ўдзячнасцю: Касцюшка даў вольную рабам-неграм, якіх яму падарыў урад ЗША. Беларускім сялянам Касцюшка не даў, вядома, нічога, але абвясціў Паланецкі універсал, у якім вясковаму люду былі нададзеныя значныя прывілеі. І сяляне пайшлі касінерамі ў паўстанцкае войска, пра слаўнага земляка складаліся ў народзе песні, легенды. Іх запісы адшукаў вядомы гісторык Уладзімір Емяльянчык.*

**Вядомы даследчык беларускага фальклору Міхал Федароўскі ў сваёй манаграфіі «Люд беларускі на Русі літоўскай» (том III, частка II, Кракаў, 1903), пішучы пра Т. Касцюшку і паўстанне ў беларускім фальклоры, падае два ўспаміны. Адзін — Яна Дзежкі, селяніна з вёскі Ходараўка, што каля Сухаволі: «Касцюшко быў мілы Богу, бо нім почал воёваць, сто дні посціў і ў косцеле модліў се.**

**Касцюшко заваеваў бы свет цэлы, жэб паны яго слухаць хацелі, але паны, як паны: гулялі, банкетавалі, Касцюшкі не слухалі, затым і Польшча прапала.**

**Кажуць, цо ў Касцюшкі то быў такі плашч, цо кулі яго не прабівалі: еднаго разу маскалі на яго знячэўку напалі, так ён не ўспеў таго плашча злажыць, так яго чысто пасеклі і забралі.**

**Касцюшко быў надто адважны і храбры генерал, мой татко співаў аб ём песню...**

*«Наш Касцюшко слаўны быў,*
*Маскалёў добро біў,*
*Як Касцюшку злапалі,*
*Кіям бокі златалі...»*

**Але далей не ведаю, бо забыўся».**

**Другі запіс — успамін Банадыка Чабёлка, селяніна з вёскі Малыя Азяранкі, што каля Шыдловіц: «Як Касцюшка злавілі, то зараз прывялі перад цара, дай казалі яму, каб ён прысягнуў Расіі, так ён сказаў: «На чыёй зямле стаю, таму прысягаю і за таго голаў палажу!» А ён уперад набраў зямлі ў чобаты, як з Польшчы выягджаў, і на той зямлі прысягаў: от і таму то ён ні зняверыўсе. От калі хітры быў да разумны».**

**Міхал Федароўскі дадае, што цалкам ідэнтычнае паданне ім было запісана некалькі гадоў таму ў Пружане ад мясцовага мешчаніна Клеменса Кудасевіча.**

**Пра рабаўнікоў і забойцаў народ песень такіх не складае, добрым словам праз сто гадоў не ўспамінае.**

### Т. КАСЦЮШКА Ў ПЕСНІ БЕЛАРУСКАЙ

**Вядомы збіральнік беларускага фальклору П. В. Шэйн у зборніку «Белорусские песни» (Віцебск, 1869) падае радкі з песні «Засвісталі палячэнькі...», запісаная у Барысаўскім павеце Н. А. Рубяроўскім. (Неабходна згадаць, што гэты павет — радзіма маці Андрэя Тадэвуша Касцюшкі Тэклі з Ратомскіх.)**

**Тэкст песні, відавочна, зборны. Тут злучаныя тры песні, але, магчыма, у адной песні — тры тэмы. Уласна пра Касцюшку са слоў:**

***«Шлі шляхта на тры трахта,***
***Москаль на чатыре,***
***Пыталіся дорожечкі***
***До места Кракова,***
***А з Кракова да Яркова***
***Шалёныя мілі,***
***Ляжаць польскія жаўнеры***
***По тры, по чатыре,***
***Ляжаць, ляжаць пан Касцюшко***
***Аж пад белым стогам;***
***Прійхожала,***
***приезджала***
***Жана молодая,***
***Кітаечку подымала***
***Ліцо целовала:***
***«Устань, ўстань, пан Касцюшко,***
***Полно воеваці,***
***Вялікую сілу маюць***
***Нам яе не ўзяці».***

**Гэтая песня вядомая таксама і пад назвай «Засвісталі казачэнькі».**

**Уладзімір ЕМЯЛЬЯНЧЫК.**

---

# АГУЛЬНАЯ СПРАВА

***(Адказ прафесару Сяргею Сідору)***

***У папярэднім нумары газеты быў надрукаваны ліст прафесара БДУ Сяргея Сідора, у якім ён разважаў пра некаторыя недахопы перавыданага перакладнога слоўніка. Рэдактар гэтага выдання М. Крыўко перадаў нам адказ.***

1. Рыхтуючы новыя выданні акадэмічнага «Руска-беларускага слоўніка» ў двух, а затым і ў трох тамах, выкарыстоўваліся слоўнікі В. Ластоўскага, М. Байкова і С. Некрашэвіча ды іншыя, а таксама даведнікі і розныя лінгвістычныя матэрыялы. На жаль, у слоўніку В. Ластоўскага, прыкладам, ёсць словы, прыдуманыя ім самім. У той час, калі рыхтаваўся слоўнік, іх нельга было ўвесці ў актыўны лінгвістычны фонд. У будучых перавыданнях слоўнікаў, верагодна, яны стануць побач з вядомымі лексемамі беларускай мовы.

2. Аўтар і рэдактары згаданых у лісце шаноўнага прафесара выданняў не ставілі сабе за мэту і не імкнуліся назаўсёды захаваць у слоўніку «савецкасць». Усё, што становіцца здабыткам гісторыі, паўным чынам адлюстроўваецца ў слоўніку. У чацвёртым, і асабліва ў пятым, выданні ўсе тамы якога ўжо выйшлі з друку сёлета, шмат якія словы, словазлучэнні, якія азначаюць паняцці і з'явы, што ўжо адышлі разам з эпохай, пазначаны паметай *гістарычнае*.

3. Што да падачы навуковай тэрміналогіі ў перакладным слоўніку, можна сказаць: такую лексіку не павінен прапаноўваць адзін чалавек. Павінна быць вызначана яшчэ адна ўмова: тэрмін не павінен мець варыянтаў. Тэрмін мусіць быць адзін. Дублеты суіснуюць вельмі рэдка, прыкладам, мовазнаўства і лінгвістыка, запаленне лёгкіх і пнеўманія. Але і паміж такімі парамі слоў прасочваюцца калі не сэнсавыя, то сталістычныя адрозненні, што уплывае на іх выкарыстанне і верагоднасць замацавання ў мове.

І ніхто — ні М. Крыўко, ні Т. Кароткая, ні хто-небудзь іншы, адзін не можа адвольна абыходзіцца з пэўным тэрмінам, не можа яго мяняць або нават ігнараваць. Упарадкаванне тэрмінаў шэрага галін навукі ці прамысловасці — справа для вялікіх калектываў спецыялістаў, якія павінны аб'ектыўна, кваліфікавана і грунтоўна ўзважваць усе прапановы.

4. З заўвагамі прафесара Сідора пра формы *раянаванне* (замест *раяніраванне*), зразумела, неабходна пагадзіцца. У трэцім — пятым выданнях «Беларуска-руска га слоўніка» шмат якія словы, што пісаліся з суфіксам *-ір-*, заменены формамі без яго. Тут заважыла моўная практыка апошняга часу.

5. Відаць, у будучых выданнях слоўнікаў трэба улічваць і моўную практыку апошніх гадоў: мяняць словы-прыметнікі з суфіксам *-ачн-* на словы з суфіксам *-кав-: рыначны — рынкавы.* Але ў кожным канкрэтным выпадку трэба падыходзіць не фармальна, бо, напэўна, не ўсе абсалютна прыметнікі з суфіксам *-ачн-* могуць быць лёгка, адным махам заменены на формы з суфіксам *-кав-* ці з іншымі суфіксамі.

6. Трэба сказаць, што з боку, як кажуць, відней, а таму кожная заўвага нават неспецыялістаў, асабліва ў нашай моўнай сітуацыі, павінна улічвацца стваральнікамі і рэдактарамі слоўнікаў. І яшчэ пажадана, каб кожныя канкрэтныя прапановы апрабоўваліся на старонках выданняў, якія прапагандуюць роднае слова.

**Мікалай КРЫЎКО.**

---

***Сымон БАРЫС***

*Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»*

# Як у нас клічуць?

## *Мужчынскія імёны*

*(Працяг. Пачатак у №№ 9, 11, 12).*

**Багдан.** Богдан (слав.) — Богам дадзены. Вытв.: Данчык, Бонік, Бодзік, Боня, Бодзя, Богусь, Богуш, Багдаш, Багданік, Багданка, Багданчык. Імяніны: пр. 4, 15.03; 12, 31.05; 20.06; 17.07; 15, 28.09; 20.11; кат. 6.02; 19.03; 17.07; 10, 31.08; 2.11. Імя па бацьку — Багданавіч і Багданаўна.

**Багуміл.** Богумил (слав.) — Богу мілы. Вытв.: Багук, Богуш. Імяніны кат. 12.01. Імя па бацьку — Багумілавіч, Багумілаўна.

**Багуслаў.** Богуслав (слав.) — слаўны перад Богам. Вытв.: Славік, Слаўка, Слава, Багусь, Богась, Богут, Богуш, Бокша, Богша. Імяніны 22.03; 18, 29.04; 23.09; 18.12. Імя па бацьку Багуслаўвіч, Багуслаўна, а таксама Багуслававіч, Багуславаўна.

**Базыль, Васіль.** Василий (грэч.) — царскі. Вытв.: Базылёк, Базылька, Васілёк, Васілька. Імяніны: пр. 14.01; 12.02; кат. 2.01; 15.04; 20.05; 14.06. Імя па бацьку — Базылевіч, Базылеўна і Васілевіч, Васілеўна.

**Баляслаў** (слав.) — болей слаўны, болей славы. Вытв.: Болік, Боліс ь, Славік, Слаўка, Слава, Болюсь. Імяніны: кат. 19.08. Імя па бацьку — Баляслававіч, Баляславаўна.

**Балтазар.** Балтасарий. Вытв.: (Б) Вольцік, (Б) Вальцюк, (Б) Вальціс ь, Бальцар. Імяніны кат. 6.01. Імя па бацьку — Балтазаравіч, Балтазараўна.

**Баніфат.** Бонифатий (лац.) — дабрачынец, тварэц дабра. Разм. Баніхват, Ніхват. Вытв. Баніфацы. Імяніны: пр. 1.01; кат. 14.05; 5.06; 25.10. Імя па бацьку — Баніфатавіч, Баніфатаўна.

**Барыс.** Борис (слав.) — скарочанае ад Борислав. Вытв.: Борцік, Барук, Барысік, Барыска, Барысачка, Барысок, Борычак, Баруня, Барунька, Баруся, Баруська. Імяніны: пр. 15.05; 6.07; 6.08; кат. 10.08. Імя па бацьку — Барысавіч, Барысаўна.

**Барыслаў.** Борислав (слав.) — той, хто бораца за славу. Вытв. і імяніны тыя ж, што ў імені Барыс. Імя па бацьку — Барыслававіч, Барыславаўна.

**Бенядзікт, Банась.** Венедикт (лац.) — блаславёны. Вытв.: Банадук, Банук, Банадысь, Банаш, Бенаш, Банадыкт, Бенадысь, Бань, Банько. Імяніны: пр. 27.03; кат. 12.01; 11, 21.03; 16.04; 7.05; 7, 11, 16.07; 13.11. Імя па бацьку — Бенядзіктавіч, Бенядзіктаўна і Банасевіч, Банасеўна.

**Барнась, Барнат.** Бернард (англ., якое са ст. ням.) — дужы мядзведзь. Вытв.: Бярнард, Борцік, Барнук, Барнаш. Імяніны 12.03; 20.08; 14.09; 14.10; 4.12. Імя па бацьку — Барнасевіч, Барнасеўна і Барнатавіч, Барнатаўна.

**Бернардын.** Бернардин (англ.) — які належыць Бернарду. Імяніны кат. 20.05. Імя па бацьку — Бернардынавіч, Бернардынаўна.

**Бутрым. Бахрамей.** Варфоломей (яўр.) — сын Толомея. Разм. Вархаламей, запазычана з польскай мовы — Барталамей, Баўтрамей. Вытв.: Бяртош, Батрым, Баўтрым, Баўтрук, Баўтрусь, Баўхрук, Баўхрусь, Будрыс, Будрысь. Імяніны: пр. 5.05; 24.06; 13.07; 7.09; кат. Баўтрамей — 24.08; 5.10; 11.11. Імя па бацьку — Бутрымавіч, Бутрымаўна і Бахрамеевіч, Бахрамееўна.

**Баян** (слав.) Імя па бацьку — Баянавіч, Баянаўна.

**Багун** (слав.) Імя па бацьку — Багунавіч, Багунаўна.

**Будзімір** (слав.) — той, хто прарочыць мір. Імя па бацьку — Будзіміравіч, Будзіміраўна.

**Буслай** (слав.). Імя па бацьку — Буслаевіч, Буслаеўна.

**Будавест** (слав.). Імя па бацьку — Будавеставіч, Будавестаўна.

**Блажэй, Улас.** Власий (грэч.) — просты, грубы. Вытв.: Уласік, Уласка. Імяніны: пр. 16, 24.02; кат. Блажэй — 3.02; 29.11.

**Бранімір** (слав.) — той, хто бароніць мір. Імя па бацьку — Браніміравіч, Браніміраўна.

**Браніслаў** (слав.) — той, хто бароніць славу. Вытв.: Бронік, Бронісь, Броня, Слава, Слаўка, Славік, Славічак. Імяніны кат. 18.08; 1.09. Імя па бацьку — Браніслававіч, Браніславаўна.

**Брачыслаў** (слав.) — той, хто бярэ славу. Імя па бацьку — Брачыслававіч, Брачыславаўна і Брачыславіч, Брачыслаўна.

**Бяртольд.** Бертольд (ням.) — пышна пануе. Імяніны кат. 29.03. Імя па бацьку — Бяртольдавіч, Бяртольдаўна.

**Бруна.** Бруно (ням.) — смуглы, загарэлы. Імяніны кат. Бруно на 17.05; 12.07; 6.10.

**Вавіла.** Вавила (грэч.) — ад імя патрыярха Анціохіі; магчыма, ад назвы горада Вавілона. Вытв.: Вава, Віля, Вавілка. Імяніны: 6.02; 17.09. Імя па бацьку — Вавілавіч, Вавілаўна.

**Вадзім.** Вадим (слав.) — абвінавайўца, бунтаўшчык. Магчыма скарочанае ад рус. Вадимир — магчыма, той, хто кіруе мірам. Вытв.: Вадзік, Вадзя, Вадзічак, Дзіма. Імяніны 22.04. Імя па бацьку — Вадзімавіч, Вадзімаўна.

**Валера.** Валерий (лац.) — моцны, бадзёры, здаровы. Разм. Валер. Вытв.: Валерык, Валерка, Валерачка, Валерчык, Валерычак, Валеранька, Лера, Лерка. Імяніны: пр. 22.03; 20.11; кат. 28.01; 14.06. Імя па бацьку — Валеравіч, Валераўна.

**Валяр'ян.** Валериан (лац.) — той, хто з горада Валерыі. Вытв.: Валера, Валерык, Валерка, Валя, Валік, Валюк, Валюсь. Імяніны: пр. 3.02; 26.09; кат. 29.01; 14.04; 27.11; 15.12. Імя па бацьку — Валяр'янавіч, Валяр'янаўна.

*(Працяг будзе).*

*Рэха здарэння*

# Пра варон-«нацыяналістаў» і гракоў-«інтэраў», або Незвычайны ўспамін пра мінулую зіму

Нарэшце вясна, і не так бярэ жудасць, што нехта перакрые вентыль газаправода і ў нашых кватэрах слупок тэрмометра зноў будзе ў лепшым выпадку торкацца ў рыску 12 градусаў вышэй нуля, як у лістападзе — снежні мінулага года. Да наступнай жа восені ўлады, можа, нешта такое прыдумаюць, каб падаткаплацельшчыкі канчаткова не пачэзлі. «Пасаромеюцца» браць у суседа плату за транзіт ці за ваенныя базы і дратаванне-забруджванне беларускай зямлі, дык якія народныя каштоўнасці за вельмі смешную цану прададуць. Свядомым людзям, канешне, будзе зноў прыкра і горка за нацыю і Айчыну, затое яшчэ пакуль трохі пагрэемся.

Увогуле зараз нядаўняя зіма ўспамінаецца не толькі халадамі, але і рознага кшталту кур'ёзамі, скажам так, французскае слоўца ўжываючы. Самы-найсамейшы, які будзе, відаць, занесены ў тую англійскую Кнігу незвычайных рэкордаў Гінеса,— пра стаянне на каленях беларусаў ля ўваходу ў «рублёвую зону новага тыпу». Як паставіла нас начальства гэтак напачатку восені, так мы памяркоўна і зіму прастаялі, пакуль нехта там наверсе ездзіў ды ездзіў у Маскву кланяцца Чарнамырдзіну, каб расійскі прэм'ер-міністр «соизволил» наведаць Менск і даць казачны рубель з двухгаловым арлом і дзяшовую нафту. Паміж тым як энергарэсурсы ў самой Расіі падбіраюцца да сусветных цэн (а Беларусі Расія па-братэрску ўжо даўно, як кажуць знаўцы, прадае па 128 долараў за тону, у той час як на заходніх біржах яе кошт — 80—90) Ну стаім гэтак і стаім, так што ўжо і новы Старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб не вытрымаў і, ажно ў Парыжы гасцюючы, як передало інфармацыйнае агенцтва, «выказаў занепакоенасць наконт узнікшай сітуацыі, бо «ў чаканні маючага адбыцца аб'яднання бяздзейнічаюць прадпрыемствы, паралізаваны гандаль». А нашы дабрадзеі з камуністычнай упартасцю паранейшаму з Масквы не вылазяць, абяцаючы беларусу за памяркоўнасць «светлую будучыню» калі не з Хасбулатавым, то з Зюганавым на чале.

Праўда, найбольш увішныя з нашага брата, пакуль астатнія чакаюць укленчыўшы новага камунізму, налаўчыліся здабываць рубель з двухгаловікам капіталістычным спосабам: напакаваўшы мяхі смятанаю, тварагом, сырам ды іншым тутэйшым харчам, «чаўночнічаюць» у Маскву на базар, нягледзячы на тое, што даводзіцца там уступаць у лютыя бойкі за месца з братамі-ўкраінцамі.

Тым часам у птушынага народа напрыканцы зімы здарыліся свае адметныя «разборкі». Пра адну з іх нават расказала менская гарадская газета «Добры вечар». Зіма на развітанне шчыравала маразамі ды снегам, харчовых жа адыходаў у горадзе і без таго паменела, таму птушкі агаладалі больш звычайнага, а гэта надало іх дзеянням рашучасці. Асабліва вызначыліся вароны. Угледзеўшы неяк, што праз школьны стадыён шыбуе на базарчык жанчына з вёдрамі смажаных семак, вароны дружна рынуліся ў атаку — і семкі рассыпаліся. Але пірацкі баль аказаўся кароткім — на варон у сваю чаргу напалі гракі. Тут усчалася такая бойка, што давялося не толькі беднай жанчыне кінуць свае вёдры, але ўцякаць і тым, хто падышоў падзівіцца. Бойка, паведаміў карэспандэнт «Добрага вечара», закіпела не толькі на зямлі, але і ў паветры. Птушкі ўрэшце забыліся і на семкі. На падмогу «сваім» наляталі ўсё новыя зграі. Усчаўшыся над школьным стадыёнам каля праспекта «Известий», бой выбухнуў неўзабаве ў іншым месцы — над універсамам «Паўднёвы Захад», прычым яшчэ больш жорсткі, хоць там увогуле ўжо ніякіх прысмакаў не было. Змагаліся за «ідэю». Ды так, што ўрэшце на зямлі засталося каля двух дзесяткаў параненых гракоў і варон.

Газета папрасіла растлумачыць сітуацыю вучонага знаўцу птушыных паводзін арнітолага Я. І. Гросмана: люта ж біліся паміж сабой блізкія суродзічы — з сямейства крумкачовых атрада вераб'іных! Хіба і розніцы, на чалавечы погляд, што вароны даўно таўкуцца каля нашага жытла і сталі неперялётнымі, а гракі ў горадзе пачалі заставацца на зіму ці не ў апошняе дзесяцігоддзе. Абедзве птушкі, здавалася, мірна завіхаліся каля кантэйнераў са смеццем. Ну, бывае, дужэйшая і адгоніць слабейшую ад прывабнага кавалка, не без таго, а тут жа сапраўдная вайна. Аказваецца, гэткі «інтэрнацыяналізм» — рэч падманлівая. Вароны і гракі ўвогуле аберагаюць не толькі свае гнёзды і тэрыторыю, але і інтарэсы зграі. Ім, зазначыў арнітолаг, уласціва імкненне абараняць аднапляменнікаў, свой род. Вучоны нават ужыў выраз — абараняць «сваю нацыянальную птушыную рэлігію». Апошняе, мяркуем, як для птушак дык і занадта, тут хутчэй паэтычнае перабольшанне. Але ўсё роўна ёсць над чым моцна падумаць людзям, бо розум іхні розумам, а інстынкты жыцця на зямлі агульныя. Ну хіба што беларусы гэта ў сабе пераадолелі і больш за іншых гатовыя да камуністычных эксперыментаў «зліцця» і цярплівага чакання «светлай будучыні».

Ул. АСІНАЎСКІ.

# *Жыве ў Вілейцы паэтка...*

На ціхай Піянерскай вуліцы Вілейкі жыве паэтка Ганна Новік. У сакавіку ёй споўнілася 80 гадоў: яна з таго славутага мужнага пакалення барацьбітоў нацыянальна-вызваленчага руху Беларусі, з якога выйшлі М. Танк, М. Машара, В. Таўлай, М. Васілёк, Н. Тарас.

*Кажуць мне людзі,*
*што жыццё — не матка.*
*Кажуць мне людзі,*
*маладосць як кветка.*
*Кажуць, мінае яна*
*як пагода.*
*А мне не шкода!*



Усё жыццё Ганны Аляксееўны Новік звязана з Вілейшчынай: дзяцінства — у сям'і каваля — прайшло ў вёсцы Варонічы, у Куранцы скончыла сем класаў. Тут яна ўсвядоміла сябе беларускай, пачала пісаць вершы, якія друкаваліся ў часопісе «Шлях моладзі», вяла патрыятычна-асветніцкую працу сярод вясковай моладзі, пазнала арышты і катаванні ў Вілейскай турме. Пасля 1939 года яна працавала ў Куранецкім райана інспектарам, а ў час вайны была партызанскай сувязной.

У пасляваенныя гады Ганна Новік працавала старшынёй калгаса, сельсавета і ў палітааддзеле МТС. Не было магчымасці займацца творчасцю — не хапала часу, але ў перыядычным друку зрэдку з'яўляліся яе апавяданні, нарысы, абразкі, а ў часопісе «Полымя» (№ 11, 1979) апублікаваны фрагменты аповесці «Другая сустрэча». У 1961 годзе выйшаў у свет першы, і пакуль што адзіны, невялічкі зборнік вершаў «Мае вёсны».

Сціплы і шчодры сэрцам чалавек, Ганна Аляксееўна актыўна ўдзельнічае ў культурным жыцці Вілейкі. Як і ў маладыя гады, яна сярод творчай моладзі: *«Крочу з часам у нагу...»*. Яна «абавязковы» аўтар літаратурнай старонкі раённай газеты «Шлях перамогі», дзверы яе гасціннае кватэры заўсёды адчынены:

*Мне кажуць — я не*
*адзінока,*
*Бо аж да гэтае пары*
*Па ўсёй Вілейшчыне*
*навокал*
*І аднадумцы, і сябры.*

Як кажуць у нас у святочныя, юбілейныя дні: Сто гадоў Вам, дарагая Ганна Аляксееўна! Сто летаў!

**Валеры ПАЛІКАРПАЎ.**

**Фота аўтара.**

*Ганна НОВІК*

# Разгукалася дуброва

*Разгукалася дуброва*
*маладзенькімі дубкамі*
*Аб няволі, аб аковах,*
*Што звіняць, звіняць вякамі.*

*Як змагацца ім з віхрамі*
*Дуб старэйшы павучае,*
*Як галовамі-вярхамі*
*ўзбіцца к сонцу, па-над гаем.*

*Разгукалася дуброва*
*маладняцкім шумам, гукам*
*Гэткім сённяшнім і новым*
*ды аб поступе, навуках.*

*Ўсе старыя у здзіўленні*
*маладняцкі шум гамуюць*
*«Сёння гора ўжо меней...»*
*Яно ёсць, яны не чуюць.*

*А асіна, як калісьці*
*страхам нейкім расхістана*
*Не ўстрымае свайго лісця,*
*што дрыгоча позна й рана.*

*1936 год.*

*Імпрэзы*

# ДА ДНЯ БНР



25 сакавіка — Дзень абвяшчэння незалежнай Беларускай народнай рэспублікі — хаця і не прыняты ў якасці афіцыйнага свята краіны, традыцыйна адзначаецца беларускімі патрыётамі як за мяжой, так і ў самой рэспубліцы. Часткай няўрадавай праграмы святкавання Дня волі стала выстава мастацкай суполкі «Пагоня», якая адкрылася 25 сакавіка ў менскім Палацы мастацтваў. У цырымоніі адкрыцця выставы ўзялі ўдзел прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі, грамадскіх і палітычных арганізацый.

# Ушанавалі Уладзіслава Галубка

25 лютага ў Менскім Доме афіцэраў клуб «Спадчына» (старшыня Анатоль Белы) сумесна з Саюзам кампазітараў (старшыня Ігар Лучанок) правялі вечарыну, прысвечаную памяці выдатнага дзеяча беларускай культуры Уладзіслава Галубка. У свой час бацька І. Лучанка быў у вандроўным тэатры Галубка, дзе іграў на цымбалах, скрыпцы, дудцы. І не дзіўна, што бацька вядомага кампазітара казаў, што не было б Уладзіслава Галубка, не было б і Ігара Лучанка.

Да арганізатараў вечарыны далучыўся мастак Яўген Ціхановіч (зяць У. Галубка), які з'яўляецца сябрам клуба «Спадчына». У аргкамітэт увайшлі кампазітар і спявачка Галіна Смоляк, мастак Алесь Цыркуноў, які зрабіў запрашальнікі на вечарыну і распрацаваў афішы.

Са словам пра Уладзіслава Галубка і аб праблемах рэабілітацыі на вечарыне выступілі Сяргей Грахоўскі і Анатоль Белы. Быў паказаны фільм пра У. Галубка. Студэнты універсітэта культуры прэзентавалі ўрывак са спектакля «Пісаравы імяніны». У вечарыне прынялі ўдзел «зоркі» беларускай эстрады, а таксама Валянціна Талкунова з Расіі і Валянцін Занковіч з Украіны. У выкананні Галіны Смоляк прагучала песня, прысвечаная Уладзіславу Галубку, а ансамбля «Сябры» — песня «Аве Марыя» (словы Зянона Пазьняка, музыка Ігара Лучанка). Але, на жаль, вядучы пра тое, хто стварыў гэтую песню, нічога не сказаў. Песню ж «Бабье лето» на словы Анатоля Лук'янава аб'явіла сама Валянціна Талкунова. Праўда, калі не звяртаць увагі на гэтыя «дробязі», то можна ўпэўнена сказаць, што вечарына цалкам удалася.

Сябры клуба «Спадчына» мяркуюць паставіць помнік Уладзіславу Галубку ў скверы на перасячэнні вуліц К. Маркса і Камсамольскай, таму што ў свой час у гэтым месцы выступаў Галубок. Скульптар Уладзімір Лятун бярэцца рабіць праект помніка.

Н. К.

## Навіны культуры



На Беларусі прайшоў Тыдзень дзіцячай кнігі, адкрыццё якога адбылося ў сталічным Доме літаратара.

На свята, якому сёлета спаўняецца 50 гадоў, сабраліся школьнікі з усіх раёнаў горада. Да дзятвы прыйшлі маладыя літаратары Іван Ждановіч і Міхась Скобла, першы намеснік гарадскога таварыства «Кніга» Уладзімір Лапцёнак, паэт-бард Ганна Бутырчык, іншыя госці. У зале гучалі вершы, песні, праводзілася літаратурная віктарына, пераможцы якой атрымалі прызы. У фае працаваў кіёск беларускай дзіцячай літаратуры.

НА ЗДЫМКУ: дзеці знаёмяцца з навінкамі беларускіх выдавецтваў, выпушчаных для школьнікаў.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ.

## Народная лякарня

*Д. Джарвіс: Рыцына і кукурузны алей*

*(Заканчэнне. Пачатак у № 13.)*

Да сказанага пра выкарыстанне народнай медыцынай рыцыны ў лекавых мэтах можна дадаць, што доктар Джарвіс лячыў ёю не толькі барадаўкі, а і папіломы, радзімкі і так званыя пячоначныя плямы, якія паяўляюцца на тварах і руках у людзей немаладога ўзросту. Джарвіс рэкамендаваў: для вывядзення барадавак уціраць рыцыну на ноч і раніцай на працягу трох-чатырох тыдняў; для вывядзення папілом уціраць рыцыну перад кожным прыёмам ежы на працягу шасці тыдняў; для вывядзення радзімак уціраць рыцыну адзін раз у дзень — перад сном. Курс лячэння тры-чатыры тыдні. Для вывядзення пячоначных плям уціраць рыцыну на ноч і раніцай на працягу месяца.

Д. Джарвіс таксама прымяняў у лекавых мэтах кукурузны алей, які здабываюць з зародкаў спелых зерняў кукурузы і які ўтрымлівае шэраг неабходных для жыццядзейнасці арганізма кіслот — ліналевую, алеінавую, арахісавую, стэарынавую і іншыя. Каштоўнасць кукурузнага алею і ў тым, што ён змяняе хімічную рэакцыю арганізма ад шчолачнай да кіслай. Лячыцца гэтым сродкам трэба наступным чынам:

Пры сянной ліхаманцы прымаць раз у дзень сталовую лыжку алею з ядой, або тры разы ў дзень па сталовай лыжцы з ядой.

Пры лушчэнні і грануломе краёў павек на працягу месяца прымаць па адной сталовай лыжцы алею ў час снедання і вячэры.

Пры паяўленні на скуры лускаватай экземы аналагічны метад лячэння праводзіцца на працягу аднаго-двух месяцаў. Гэты сродак дазваляе ўстараніць лускаватасць, прыдае скуры эластычнасць.

Кукурузны алей садзейнічае аздараўленню валасоў і скуры галавы. Знікне перхаць, валасы набудуць бляск і шаўкавістасць, калі прымаць кукурузны алей у час снедання і вячэры на працягу аднаго-двух месяцаў. Алей можна эфектыўна выкарыстоўваць у спалучэнні з рэгулярным мыццём галавы. Рэкамендуецца такі спосаб: падагрэты алей старанна ўцерці ў скуру галавы, затым абгарнуць галаву выкручаным ручніком, папярэдне вынятым з гарачай вады. Працэдуру паўтарыць пяць-шэсць разоў, затым вымыць галаву нейтральным мылам. У выніку валасы набудуць бляск.

Доследы Джарвіса пацвярджаюць, што ў аснове народнай медыцыны ляжыць эфектыўнае выкарыстанне лекавых і прафілактычных уласцівасцей розных раслін і рэчываў, якія могуць быць выкарыстаны з гарантыяй, што даецца самой прыродай.

*Алесь МАСАРЭНКА*

## ШПІЛЬКІ

* * *

— А ён такі ў нас: прывядзе новую жонку ў хату — і ўсё п'е, п'е, пакуль маладуха не збяжыць... Зноў год-два гуляе, нанова жэніцца. І так ужо ці не пятая жонка ў яго.

* * *

— У галаве ў яго ўсё пакілбасілася, а розум — раскірэчыўся... Таму й трубіць з трыбуны: «Кілбасы — не кніжкі... Кніжкі — не кілбасы...»

* * *

— Лідка нявесціцца?..

— Ат, кудры на плоіва навіла... Нявеста! Валасы сівыя — смешна глядзець на яе кудлы гэтыя.

* * *

— Я ўжо такая ведзьма?.. Я сурочыла сыночка яе?..

— Сказала, што вы, цётка, як глянулі, дык ён і ўпаў.

— Што б яна чужых дзяцей жалела, а сваіх ня мела... Яна ж пасадзіла яго на гэтыя арэлі, хіснула, ён і шмякнуўся. Дзіцёнак малы, трэба ж было не адпускаць... Так, я міма йшла, бачыла ўсё... Эйш, сурочыла!

* * *

— Расціла дзяцей, недаядала, недасыпала... І во — недакага на старасці галаву прытуліць, няўгодная дзецям сваім стала.

* * *

— Ці ж гэта чалавек? Сказана, у дастатку рос — і во, турлушка нейкі: кажа адно, робіць другое... Калі б ён у небытах рос, то, можа, чалавек з яго атрымаўся б. А так — турлушка, віхюн нейкі.

## Увага!

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны аб'яўляе набор слухачоў на курсы беларускай мовы, якія пачнуць працаваць па меры камплектавання груп. Пасля заканчэння курсаў і паспяховай здачы залікаў выдаюцца пасведчанні.

Таксама арганізуюцца курсы беларускай мовы (вусна і пісьмова) і літаратуры абітурыентам для здачы экзаменаў у вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы.

*Вядуць курсы спрактыкаваныя педагогі-метадысты.*

Звяртацца на адрас: Румянцава, 13, тэл. 33-25-11.

*Адукацыйная камісія ТБМ імя Ф. Скарыны.*

*Пародыі*

*Георгій ЮРЧАНКА*

## Галоўны клопат

*Граў, як быццам плакаў, патэфон.*
*І кружыла ў танцы там спадніца.*
*.....................................*
*Мне вельмі цікава, як людзі*
*Будуць без нас любіць?*
Мікола Мінчанка

Граў гармонік. Стагналі масніцы.
Браўся час неўпрыкмець на зару.
Парасонілі цнотна спадніцы.
Міні-сукні імкнулі ўгару.

Хай жахліва грымяць навальніцы,
Хай лютуюць завеі штодзень,
Безупынку на сукні-спадніцы
Буду я ў захапленні глядзець.

Праз журлівы заслон аканіцаў
Пруглядае нясмелая сінь...
Хто мне скажа, ці будуць спадніцы
У трыццатым стагоддзі насіць?..

## Роздум

*Жыццё — не поле стадыёна.*
Паўлюк Пранужа

Штоміг напружвай, струнка, памяць,
У глыбы дзей паскорвай крок.
Сама на памяць прыйдзе замест
І ляжа зладжана ў радок.

А там у роздуме натхнёным
Ты возьмеш ісцін рубяжы:
Жыццё — не поле стадыёна,
За пяць хвілін не аббяжыш.

## Крыўда

*Бабуля пляце саламяны кашэль,*
*А чмель перабраўся на новую кветку.*
Фелікс Баторын

Мне крыўда глыбока запала ў душу.
І горла сціскае ад горасная смагі:
Я вершы з такой насаладай пішу,
А бабка з чмялём не звяртаюць увагі.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**20 КРАСАВІКА, СЕРАДА**

13.30. Навіны.
17.00. Паэтычная гасцёўня. Пісьменнік П. Макаль.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Пяць зорак».
21.00. Панарама.
21.50. «Шчыт і меч». Мастацкі фільм.
23.55. НІКа.

**21 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР**

16.00. Нацыянальны друк ва ўмовах рынку. «Круглы стол».
16.50. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. «Вялікае слова праўды» (сучасная беларуская паэзія).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
20.10. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
21.00. Панарама.
21.45. «Шчыт і меч». Мастацкі фільм.
23.50. НІКа.

**22 КРАСАВІКА, ПЯТНІЦА**

13.30. Навіны.
16.40. ПІК. Публіцыстычна-інфармацыйны канал для падлеткаў.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
21.50. «Шчыт і меч». Мастацкі фільм.
23.20. НІКа.

**23 КРАСАВІКА, СУБОТА**

10.25. Паказвае Гродна.
11.40. «Усё, што маё». Мастацкі фільм.
16.25. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Міля-94». І Рэспубліканскі фестываль маладзёжнай моды.
19.00. Матч-шоу. «Зоркі прафесійнага бокса «Менск-94».
21.00. Панарама.
21.50. «Царскае паляванне». Мастацкі фільм.
0.05. НІКа.

**24 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ**

10.30. Для дзяцей. Літарынка.
11.55. Нядзельная пропаведзь. Звяртаецца святар Жодзінскай царквы айцец Аляксей.
12.35. «Тэлебом». Шоу-конкурс юных выканаўцаў.
14.20. «Збудзецца — не збудзецца». Музычная праграма з удзелам І. Афанасьевай.
16.25. Беларусы ў Амерыцы. Перадача шостая.
17.30. Гінес-шоу.
18.25. З панядзелка... За тыдзень да Вялікадня.
20.00. Панарама.
21.10. «Маціяс Шандар». Мастацкі фільм.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 70.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7552 паасобнікі.
Падпісана ў друк 18.04.1994 г. у 15 гадзін.